# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 10 (2308) 11 сакавіка 1993 г. Выдаецца з 1955 г.


*АДРАДЖЭННЕ СВЯТЫНІ*



Гонар і аздоба Мінска — Чырвоны касцёл паступова набывае свой першапачатковы выгляд. І галоўнае, што нагадвае аб добрых пераменах, — гэта крыжы на вежах святыні. Іх устанаўлівае Ян ЯКІМОВІЧ.

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 8-й стар.).

Фота Віктара СТАВЕРА.

## "СЭНС" І "НОНСЕНС", або ЯКІ ПРАВАПІС ЛІЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ

**ГУТАРКА КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" З ДЫРЭКТАРАМ ІНСТЫТУТА МОВАЗНАЎСТВА АН БЕЛАРУСІ Аляксандрам ПАДЛУЖНЫМ**

**— Аляксандр Іосіфавіч, ні для каго не сакрэт, з якімі цяжкасцямі і спрэчкамі, з папрокамі і ў адрас русіфікатараў, і ў адрас здэнацыяналізаванага свайго народа адраджаецца на нашай зямлі старажытная беларуская мова. Дзякуй Богу, усё больш становіцца ў нас беларускіх школ, хоць пакуль што і няўпэўнена, але ўсё часцей гучыць яна ў дзіцячых садках. Мяркуецца ў бліжэйшы час перавесці на нацыянальную мову справаводства. Застаецца толькі высветліць, менавіта на якую беларускую мову мы збіраемся пераходзіць, бо нават у розных сродках масавай інфармацыі яна гучыць па-рознаму. Дзе карані гэтай з'явы і як да яе ставіцца Інстытут мовазнаўства?**

— Пытанне гэта няпростае, і адказ на яго трэба шукаць у нетрах гісторыі. Вы ведаеце, што беларуская мова як самастойная пісьмовая літаратурная мова пачала фарміравацца прыкладка ў XIII стагоддзі, а недзе к XV стагоддзю старабеларуская мова, як яе называюць, у асноўным ужо сфарміравалася. А далей у сувязі з рознымі гістарычнымі падзеямі Беларусь увайшла ў склад Рэчы Паспалітай, што прывяло да першага сур'ёзнага націску на нашу нацыянальную мову: яна была фактычна забаронена, і пісьмовая форма з цягам часу проста заняпала. А потым адбыўся новы перадзел, і Беларусь трапіла пад карону Расійскай імперыі. Некаторы час царскі ўрад да беларускай мовы ставіўся больш-менш раўнадушна, але пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага прыняў рашучыя меры, каб выкараніць мясцовую культуру. Цалкам была заменена беларуская адміністрацыя, і мова знікла са сферы справаводства, а ў 1867 годзе наогул была забаронена пісьмовая беларуская мова.

Але ў народзе яна жыла, і перадавыя польскія і рускія вучоныя звярнулі ўвагу на багаты фальклор, народную творчасць. Пачалі з'яўляцца публікацыі. Але паколькі традыцыя пісьма перарвалася, узнікалі цяжкасці пры перадачы на пісьме беларускай мовы. Той, хто належаў да польскай школы, пісаў лацінкай, прымяняючы польскую графіку і правілы правапісу польскай мовы. Прыхільнікі рускай школы пісалі згодна з традыцыямі рускай арфаграфіі. Так і атрымалася, што на першапачатковым этапе ў беларусаў было дзве азбукі — кірыліца і лацінка і фактычна два правапісы. Безумоўна, кожны з пішучых імкнуўся адлюстраваць асаблівасці той беларускай мовы, якую ён ведаў, і таму гэта была дыялектная мова, злёгку апрацаваная.

І толькі калі з'явіліся першыя выданні — газета "Наша доля" і асабліва "Наша ніва", перад выдаўцамі востра паўстала пытанне, як выдаваць, на якой мове, каб іх разумелі і чыталі. Паколькі на Беларусі перад першай імперыялістычнай вайной школы былі рускія, то вырашылі, што больш даступныя чытачам будуць тэксты, пісаныя кірыліцай. Такім чынам, выбар быў зроблены, хаця друкаванне тэкстаў і лацінкай, і кірыліцай доўжылася яшчэ да ўтварэння БССР.

**— А які быў правапіс і ці быў ён наогул?**

— Правілаў як такіх не было, але тэндэнцыя адлюстроўваць некаторыя асаблівасці беларускай мовы, якія намеціліся яшчэ ў XIX стагоддзі, захоўвалася. Перадавалася аканне, дзеканне, цеканне і шэраг іншых асаблівасцей. Аднак кожны, хто друкаваўся, адчуваў вострую патрэбу ў фарміраванні правіл, якіх прытрымліваліся б усе, хто будзе пісаць. І такія спробы рабіліся неаднаразова, але самай удалай была спроба Браніслава Тарашкевіча. Яго граматыка, выдадзеная ў 1918 годзе, адыграла выключна важную ролю, таму што яна сапраўды адлюстравала асноўныя асаблівасці беларускай мовы.

Аднак у 1924 годзе пасля прыняцця пастановы аб беларусізацыі, калі паўставалі беларускія школы, рабілася відавочным, асабліва практыкам, што правапіс Тарашкевіча мае шэраг недахопаў. У гэты час праводзілася падрыхтоўка акадэмічнай канферэнцыі па правапісу, якая адбылася ў 1926 годзе. З асноўным дакладам выступаў Язэп Лёсік, правадзейны член Інбелкульта, які прапаноўваў праект новага правапісу, а яго апанентам быў Сцяпан Некрашэвіч. У выніку вострай дыскусіі на канферэнцыі праект быў адвергнуты, хаця па асобных пунктах пагадненне было дасягнута. Паколькі праблема наспела і спыніць работу не ўяўлялася магчымым, для выпрацоўкі новага праекта на канферэнцыі вызначылі камісію. У яе ўвайшлі: старшыня Некрашэвіч, сакратар Багдановіч, члены Лёсік, Ластоўскі, Бузук, Бялькевіч, Луцэвіч (Янка Купала), Чарчжынскі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## БЫВАЙ, МАСЛЕНІЦА!

**Так хочацца свята, каб хоць ненадоўга забыцца на бязрадаснае і шэрае жыццё, якое паглынае нашы сілы і думкі. Мінулася яшчэ адна зіма з халадамі, высокімі цэнамі, недахопам усяго: цяпла, грошай, упэўненасці ў заўтрашнім дні. Зіма завяршылася масленым тыднем. Масленіца — старажытнае свята сустрэчы вясны ў славян. Пасля яе пачынаецца Вялікі пост. У апошнюю нядзелю лютага ў Мінску, іншых гарадах і вёсках Беларусі адшумела жаданае свята. Было і катанне з горак, і рытуальныя забавы, і гарбата з блінамі. Вясёлыя провады зімы былі наладжаны ў Смалявічах (на здымку), мнагалюдна і шумна было на вуліцах горада.**

Фота В.АЛЯШКЕВІЧА.



# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*РЭЙТЫНГ*

## ТРЫ З ПАЛОВАЙ

**Міжнародная арганізацыя "Дом свабоды" вырашыла вылічыць узровень свабоды ўсіх краін на 1993 год. У гэтым спісе апынуліся і дзяржавы СНД. "Дом свабоды" схематычна расфарбоўвае карту свету ў тры колеры: белы (свабодныя краіны), чорны (дыктатура і інш.) і шэры (напалову свабодныя).**

**З былых савецкіх рэспублік на карце "Дома свабоды" толькі адна светлая пляма. Свабоднай краінай другі год запар лічыцца Літва (12,5 бала). Эстонія і Латвія з разраду "свабодных" перамясціліся ў "напалову свабодныя", атрымаўшы па 3 балы кожная.**

**Славянскія рэспублікі таксама "напалову свабодныя"; Украіна набрала 3 балы, Расія і Беларусь — па 3,5. Але калі Беларусь за год падняла свой рэйтынг, то ў Расіі ён упаў. Дыягназ Расіі: згортванне грамадзянскіх свабод; крохкасць палітычнай сістэмы з-за процістаяння галін улады; рост злачыннасці.**

*ПАРЛАМЕНЦКАЕ РАССЛЕДАВАННЕ*

## СПРАВА АБ 3-х МІЛЬЁНАХ

**Восем беларускіх парламентарыяў, у ліку якіх І.Гермянчук, С.Навумчык, В.Голубеў, А.Волкаў, накіравалі Старшыні Вярхоўнага Савета і членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь зварот з патрабаваннем стварыць часовую парламенцкую камісію па расследаванню справы аб расходаванні трох мільёнаў долараў, выдзеленых урадам на набыццё медыкаментаў і медыцынскага абсталявання. На іх думку, Кантрольная палата, якая ўжо разглядала гэтае пытанне, у рамках сваіх функцый абмяжавалася аналізам фінансавага боку справы, але не закранула іншых істотных момантаў. Акрамя таго, дэпутаты лічаць, што неабходна ў цэлым грунтоўна праверыць расходаванне валютных сродкаў і абмеркаваць гэтае пытанне на нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі.**

*УЗБРОЙВАЕМСЯ*

## ВЁСКА СУПРАЦЬ ЗЛАЧЫНЦАЎ

**Спецыяльныя групы правапарадку ствараюцца ў кожным калгасе і саўгасе Іванаўскага раёна. Такое рашэнне прыняў мясцовы райвыканкам у процівагу крадзяжам, грабяжам і іншым злачынствам, што пачасціліся апошнім часам. У склад новых фарміраванняў уваходзяць спецыялісты і актыў сельскіх органаў улады. На гэтыя мэты прадугледжана выдзеліць пэўныя грашовыя сродкі, прадастаўляць членам сельскіх "патрулёў" дадатковыя водпускі.**

**У сваю чаргу, перад кіраўнікамі гаспадарак пастаўлена задача ў самыя кароткія тэрміны ўзмацніць нагляд за найбольш важнымі аб'ектамі, абсталяваць іх ахоўна-пажарнай сігналізацыяй.**

*З КАЛЕНДАРА*

## ЛЮДЗІ І ДАТЫ

1993 год адзначаны ў беларускім календары шэрагам памятных нацыянальных дат. Так, у гэтым годзе горад Рэчыца адсвяткуе сваё 780 гадоў, а Нясвіж — 770. З часу першага ўпамінання ў летапісах аб Талачыне прайшло 560 гадоў.

430 гадоў назад была аддрукавана Брэсцкая Біблія, якая стала рэліквіяй польскамоўнага кнігавыдавецтва ў Беларусі. На пяць гадоў пазней пачала сваю дзейнасць Заблудаўская друкарня, заснаваная першадрукарамі І.Фёдаравым і П.Мсціслаўцам.

Прайшло 700 гадоў з дня нараджэння князя Вялікага Княства Літоўскага Войшалка. 420 гадоў спаўняецца выдатнаму перакладчыку і ўрачу Даніілу Набароўскаму. Столькі ж — пісьменніку і вядомаму царкоўнаму дзеячу І.Руцкаму.

> *"У рэспубліцы абвастрылася сацыяльна-эканамічнае становішча, а гэта заканамерна адбілася і на крыміналагенным абстаноўцы. Колькасць зарэгістраваных злачынстваў за мінулы год вырасла на 18,8 працэнта і ў абсалютных лічбах дасягнула 96,6 тысячы. Павялічылася колькасць усіх відаў злачынстваў, якія ўваходзяць у групу цяжкіх.*
>
> *Адбываецца кансалідацыя злачыннага элемента, аснову якога складаюць раней судзімыя і рэцыдывісты. Імі ўчынена амаль 11 тысяч злачынстваў, што на 13 працэнтаў больш, чым летась.*
>
> *Злачынны свет актыўна ўзбройваецца. Аб гэтым сведчаць і частыя выпадкі нападаў на аб'екты, дзе ёсць зброя, на армейскіх вартавых. Міліцыяй канфіскавана дзвесце ствалоў нарезной зброі, у тым ліку 7 кулямётаў, 30 аўтаматаў, карабінаў, вінтовак, 38 абрэзаў, 70 пісталетаў і рэвальвераў; 124 адзінкі выбуховых рэчываў, каля 26 тысяч боепрыпасаў. Злачынствы з выкарыстаннем агнястрэльнай зброі павялічыліся напалавіну. Заслугоўвае ўвагі такая дэталь: кожны шосты са 160 затрыманых за незаконнае захоўванне зброі з'яўляецца жыхаром паўднёвых раёнаў Расіі і Закаўказзя.*
>
> *Наша прагнастычная ацэнка развіцця злачыннасці такая: на бліжэйшыя два гады ў яе дынаміцы і структуры будуць пераважаць негатыўныя тэндэнцыі. У якасці састаўляючых — захоўваемы дэфіцыт сродкаў і рэсурсаў, якія неабходны для рэалізацыі антыкрыміналагенных мерапрыемстваў; усё большае беспрацоўе; адсутнасць умоў для рэсацыялізацыі асоб, якія адбываюць пакаранне; незанятасць моладзі; дэфіцыт прадуктаў харчавання і прамысловай прадукцыі; хібы праўвавога механізму плюс, вядома, унутраныя праблемы МУС.*
>
> *Зніжэнне вастрыні крыміналагеннай сітуацыі малаверагоднае без стабілізацыі ў эканоміцы і сацыяльнай сферы. Для пералому сітуацыі патрэбна распрацоўка дзяржаўных праграм, накіраваных на ліквідацыю прычын злачыннасці, прычын праграм, падмацаваных матэрыяльна".*
>
> *(З інтэрв'ю міністра ўнутраных спраў Беларусі Уладзіміра ЯГОРАВА газеце "Звязда").*

*ДЗЯРЖАВА І РЭЛІГІЯ*

## ВЯРНУЦЬ ЗАБРАНАЕ

**Ініцыятыўная група па вяртанню царкоўных будынкаў і царкоўнай маёмасці звярнулася да Пінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў з просьбай перадаць для пераабсталявання ў праваслаўны храм кінатэатр "Дружба", які пабудаваны на месцы парушанай пінскай святыні — Свята-Феадораўскага сабора, і аказаць дапамогу ў будаўніцтве праваслаўнага храма ў Лугах. Аўтары звароту адзначаюць, што ў Пінску раней было 15 праваслаўных храмаў, а будынкі гэтай канфесіі, якія ёсць у горадзе цяпер, не могуць умясціць усіх жадаючых.**

*КАРЫСТАЮЦЦА ПОПЫТАМ*

## І Ў РЭСПУБЛІЦЫ, І ЗА МЯЖОЙ

**Яшчэ адзін від друкаванай прадукцыі, нягледзячы на ўзрослыя ў некалькі дзесяткаў разоў цэны, карыстаецца попытам як у нас у рэспубліцы, так і за мяжой. Гэта беларуская мастацкія паштовыя маркі, якія за два-тры дні пасля з'яўлення знікаюць са свабоднага продажу і аказваюцца ў бізнесменаў ад філатэліі. Так, напрыклад, маркі з гербам Полацка каштуюць ужо 10—13 рублёў, блок і дзве маркі з адлюстраваннем крыжа Ефрасінні Полацкай — 60-80, а шэсць двухрублёвых марак з помнікамі архітэктуры рэспублікі — усе 100.**

*КАНВЕРСІЯ*



**Упэўнена пераходзіць на мірныя рэйкі маладзечанскі радыёзавод "Спадарожнік". У пяць разоў павялічаны тут выпуск тавараў народнага спажывання.**

**Адна з апошніх навінак прадпрыемства — аўтамабільная стэрэамагнітола "Тонар". У гэтым годзе маркуецца выпусціць 15 тысяч апаратаў.**

**НА ЗДЫМКУ: такую навінку прапаноўвае прадпрыемства аўтааматарам.**

*ФЕСТЫВАЛЬ У БЕЛАСТОКУ*

## СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ

**Адгучалі апошнія акорды традыцыйнага фестывалю беларускай песні ў Беластоку, што адбыўся напрыканцы лютага. Фальклорныя калектывы і эстрадныя выканаўцы з Беластока, Гайнаўкі, Варшавы і іншых польскіх гарадоў здзівілі на гэты раз асобым размахам удзелу і разнастайнасцю рэпертуару. Больш за 120 сучасных музычных твораў і песень нашых бабуль і дзядуль прагучала за тыдзень фестывалю на галоўнай гарадской сцэне. На польскай зямлі выступілі і нашы артысты — фальклорны ансамбль "Вытокі" з Віцебска.**

**— Гэты фестываль, без сумнення, быў самым прадстаўнічым, — сказаў пасля вяртання ў Мінск намеснік міністра культуры рэспублікі Уладзімір Рылатка. — І мы былі прыемна здзіўлены, што сярод прыхільнікаў беларускай песні не толькі эстраднай, але і народнай, вельмі многа моладзі. Аказалася, у Польшчы не толькі любяць іх выканаўць, але і берагуць. На фестывалі можна было пачуць такія старадаўнія абрадавыя песні, якія ў нас у рэспубліцы калі не зусім забытыя, то спяваюцца дзе-небудзь у глыбінцы.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

10,3 МІЛЬЁНА чалавек складае насельніцтва Беларусі на пачатак 1993 года. Колькасць жыхароў павялічылася ўсяго на 0,6 працэнта. У параўнанні з 1992 годам на 3,3 працэнта паменшылася нараджальнасць, на 1,8 працэнта павялічылася колькасць памерлых.

З 1 САКАВІКА ў Беларусі зноў падаражэлі прадукты харчавання: свініна — на 70 працэнтаў, масла — на 60 працэнтаў, выраслі цэны таксама на ялавічыну і каўбасы. Праезд у грамадскім транспарце каштуе ўжо 5 рублёў. Плата за водаправод і каналізацыю ўзрасла ў 3 разы, за ацяпленне і водазабеспячэнне — у 4,5 раза, за электраэнергію — у 3 разы.

СКАРАЧАЮЦЦА маштабы аздараўлення дзяцей у летні перыяд. Як адзначаў Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, у 1992 годзе адпачыла ў дзіцячых аздараўленчых лагерах 359 тысяч навучэнцаў. Гэта на 76 тысяч менш, чым у 1991 годзе. Сёлета, відаць, будзе яшчэ менш. Асноўная прычына — высокі кошт пуцёвак у аздараўленчых (былыя піянерскія) лагеры.

У МІНСКУ з агульнай колькасці 208 агульнаадукацыйных школ, гімназій, каледжаў, 11 інтэрнатаў і спецшкол толькі 84 — беларускія. У 154 школах ёсць беларуская класы. Цяпер толькі 48 працэнтаў першакласнікаў пачынаюць навучанне на беларускай мове.

*ДЗЕНЬ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ МІЛІЦЫІ*

**4 сакавіка абвешчана Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі Днём беларускай міліцыі. Паводле гістарычных даных, менавіта ў гэты дзень у 1917 годзе ў Мінску на сходзе рабочых і служачых прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, Камітэта Заходняга фронта была прынята пастанова аб утварэнні народнай міліцыі.**

**Адзначаючы першы раз сваё прафесійнае свята, сталічныя вартавыя парадку і ахоўнікі нашага спакою ўсклалі кветкі да будынка на праспекце імя Ф.Скарыны, дзе ў 1917 годзе размяшчалася першая народная міліцыя горада Мінска.**

**У гэты ж дзень з нагоды свята ў рэспубліцы адбыліся розныя ўрачыстыя мерапрыемствы.**






**У студзені пачаў дзейнічаць кандытарскі цэх пры сталовай № 113. Гэта невялікае прадпрыемства размясцілася на вуліцы Чапаева ў Мінску. Калектыў нешматлікі — пяць чалавек. Узначальвае яго Марыя Балабаннікава. Астатнія чатыры кандытары — маладыя дзяўчаты, вытворчы стаж якіх налічвае ўсяго па тры гады. Аднак гэта ўжо вопытныя спецыялісты сваёй справы. Яны аднолькава добра могуць спячы і булачку, і пірожнае, і слоены пірог. Асабліва ўдаюцца дзяўчатам тарты. І заказаў на іх многа, асабліва ў перадсвяточныя дні.**

**НА ЗДЫМКУ:** гэты торт Алена **НАХВАТ** спякла спецыяльна да Міжнароднага жаночага свята — 8-га Сакавіка.

Фота Віктара **СТАВЕРА**.

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПРОЗВІШЧА, АДКРЫТАЕ НАНАВА

Упершыню гэта імя я выпадкова пачуў у Полацку. Пажылая інтэлігентная жанчына тлумачыла мне, тады яшчэ школьніку, што Каэтан Касовіч такая ж слава старажытнага горада, як Францішак Скарына ці Сімяон Полацкі.

Другі раз прозвішча Касовіча раптам узнікла ў гутарцы, калі я ехаў цягніком з Львова ў Ленінград. Маімі спадарожнікамі аказаліся двое вучоных — муж і жонка, і я рашыў распытаць іх, што яны ведаюць пра яго.

Неўзабаве мы пад'ехалі да Балтыйскага вакзала. На развітанне спадарожнікі запрасілі мяне ў Дом вучоных. Там яны раскрылі перада мной першы том надрукаванага ў Расіі "Санскрито-русского словаря", які быў выдадзены ў 1854 годзе. Я ім быў вельмі ўдзячны. Тады ж`я пачуў, што Каэтан Андрэевіч Касовіч быў вялікім працаўніком у навуцы, што на гэтым камяністым і цярністым шляху дамогся выдатных поспехаў, стаў славутым вучоным-усходазнаўцам, што гэты слоўнік падрыхтаваў да друку і выпусціў у свет ён.

— А радзіма яго — Беларусь, Полацк, — адказалі гасцінныя ленінградцы.

Але вялікі ўсходазнавец, як гэта адзначана ў дарэвалюцыйных даведніках і выданнях, нарадзіўся 2 (14) мая 1814 года не ў горадзе Полацку, а ў адной з заняпалых беларускіх вёсак, у сям'і вельмі беднага свяшчэнніка. Як адзначалі яго былыя аднакласнікі з Полацкай уніяцкай школы прыёраў, маленькі Каэтан быў не такі, як усе, вучыўся ён вельмі старанна, на зайздрасць усім. Але падводзіла яго матэматыка... Чаго хлапчук Касовіч ні рабіў, але не давалася яму арыфметыка, асабліва калі тут прысутнічала лічба сем. За гэта ён увесь час цярпеў зневажанні ад свайго настаўніка матэматыкі Генрыха Брынка, які перапрабаваў на ім лазу, палкі, лінейкі, бізуны, пугі, раменную пяціхвостку.

У 1828 годзе школу прыёраў у Полацку, дзе вучыўся Касовіч, закрылі. Але гэткім вялікім было яго жаданне вучыцца, што ён пайшоў пехам у Віцебск. Без грошай, босы, галодны і абарваны, ён з'явіўся ў гімназію, і, канешне, яму далі ад варот паварот.

Але ўдача спадарожнічала Касовічу: ён пачаў вучыцца ў школе базыльянаў, а жыў у жыда-карчмара. І вось тут з ім здарылася самае неспадзяванае, тое, што крута змяніла яго жыццё. У закутку без усякага ацяплення, дзе ён пражываў узімку і ўлетку, стаяла шафа гаспадара з старажытнажыдоўскімі кнігамі. Дзякуючы ім, ён хутка самавукам асвоіў і сучасную, і старажытнажыдоўскую мовы. А да гэтага дапытлівы юнак у дасканаласці авалодаў латынню, грэчаскай. І само сабой — ён ведаў сваю родную мову, польскую і рускую.

Мясцовыя жыды, дзівячыся ведам Касовіча, прывялі Каэтана ў сінагогу да рабіна, дзе той зрабіў яму экзамен. Здзіўленню не было межаў, як аказалася, ён нават лепей за рабіна ведаў і тлумачыў іх свяшчэнны Талмуд.

Неўзабаве закрылі і школу базыльянаў. З мундзірам гімназічным дапамог яму яго зямляк і сябар Максімільян Маркс (пра гэтага чалавека мы таксама амаль нічога не ведаем: паўстанец, катаржнік, пакутнік, ён увасобіў самыя лепшыя рысы чалавечага характару, недзе ў Львове знаходзіцца рукапіс яго ўспамінаў. — **М.М.**), а віцебскі гарадскі рабін пайшоў хадайнічаць за яго перад папячыцелем Беларускай вучэбнай акругі Г.Карташэўскім, які дапамог яму з гімназіяй ды яшчэ ўзяў Каэтана да сябе рэпетытарам для ўласных дзяцей. Ён жа потым адправіў Касовіча за кошт акругі ў Маскоўскі універсітэт.

...За першую сваю яркую працу аб польскай літаратуры, якую яму даручылі зрабіць, бо дасканала валодаў польскай мовай, меў Касовіч буйнейшую ў сваім жыцці непрыемнасць. Баронячы сваю працу і погляды, ён, нягледзячы на асобы дэкана і яго пляменніка, назваў іх невукамі і блюзнярамі. Вялікі правакатар-дэкан так зрабіў, што хутка Каэтан Касовіч трапіў за краты маскоўскай жандармерыі. Але за яго заступіліся студэнты — граф Талстой, князі Абаленскі, Галіцын, Лабанаў-Растоўскі, і Касовіч выйшаў на волю.

У Маскве Каэтан Касовіч за тры месяцы авалодаў італьянскай мовай, ды так, што мог свабодна гаварыць, чытаць, перакладаць.

А неўзабаве яго сябар, той самы Максімільян Маркс, прынёс яму кнігу на санскрыце. І вось адсюль пачынаецца яго галоўная справа ў жыцці.

Пасля заканчэння Маскоўскага універсітэта ў званні кандыдата навук славесных (1836) Каэтану Касовічу, як аказалася, няма месца ў Маскве, дзе ён мог бы прыкласці свае веды, сілы, энергію.

Нейкі час Касовіч выкладае ў Цвяры ў гімназіі грэчаскую мову і старанна вывучае працы заходніх санскрыталагаў, у 1843 годзе ён вяртаецца ў Маскву, там таксама выкладае, а яшчэ ён становіцца асабістым сакратаром у аднаго віднага гультая-вучонага, за якога ён пісаў і правіў шмат якіх прац, і па-ранейшаму займаецца па начах любімай справай — санскрыталогіяй. У "Советской исторической энциклопедии" ў 7

(Заканчэнне на 5-й стар.).

ПРЫДБАЦЬ СВОЙ КУТ І ПАБУДАВАЦЬ ДАЧУ

# ЧАРГА ДА КАНЦА ЖЫЦЦЯ

Дачны бум у Беларусі ўзнік не сёння. Недзе яшчэ на пачатку сямідзесятых гадоў літаральна на кожным прадпрыемстве, у вялікай ці малой арганізацыі сталі ствараюцца так званыя садовыя таварыствы, раслі чэргі за лапікам зямлі гэтак сотак на шэсць. Прыдбаць садовы ўчастак і тады была праблема.

Праўда, была ў гарадах катэгорыя людзей, якія мець сваю зямельку не спяшаліся. Аб чым, дарэчы, цяпер і шкадуюць. Як мой знаёмы інжынер аўтамабільнага завода Міхаіл Маштакоў. Чалавекам безыніцыятыўным яго ніяк не назавеш: на рабоце — гарыць, дома, у сваёй кватэры, змайстраваў варштат, аздобіў арнаментам пакоі. Адным словам, працаваць любіць, мае залатыя рукі. А вось да зямлі яны нешта не цягнуліся.

— Пакуль жылі мае бацькі на Магілёўшчыне, — расказвае Міхаіл Паўлавіч, — я не ведаў ніякага гора: прывязу бульбы, яблык, гародніны... Назапашваў і свініны. Не думаў, што наступяць цяжкія часіны, узнікнуць такія праблемы з харчаваннем.

Памерлі бацькі, і я перастаў ездзіць у вёску. Больш даводзілася бегаць па магазінах і па рынках. Нічога, спачатку грошай хапала, яшчэ тады і жонка працавала, таксама зарабляла няблага. Але з кожным годам тая ж бульба, іншая гародніна станавіліся даражэйшымі. Тут яшчэ і жонка на пенсію пайшла. Якая гэта пенсія — казаць не трэба, мізэр.

І сталі мы эканоміць на ўсім. Сорам прызнацца, кавун у восемдзесят дзевятым толькі адзін раз пакаштавалі, ашчаджалі, каб сабраць на падарункі да дня нараджэння ўнукаў, іх трое ў нас.

Затое ў суседа хапала і клубніц, і агуркоў. Усё са сваёй дачы прывозіў.

Тут і Міхаіл Маштакоў рашыў свой садовы ўчастак прыдбаць. І аказаўся ён стосямідзесяцітысячнікам: гэтулькі чалавек, па няпоўных звестках, у Мінску хацелі б мець дачы.

— Колькасць жадаючых з кожным годам расце, — гавару Міхаілу Паўлавічу. — На што спадзявацца? Жыцця ж не хопіць, каб дачакацца!

— Чарга яшчэ ні пра што не сведчыць, — пачуў я нечаканы адказ. — Садовы ўчастак можна набыць хоць сёння. Але дзе? Нядаўна мне прапанавалі зямлю ажно ў Стаўбцоўскім раёне. Туды на электрычцы больш гадзіны дабірацца, а потым кіламетраў дзесяць яшчэ пешшу ісці. Не тыя ўжо гады.

— У вас жа "Запарожац", — заўважыў я.

— Сапсаваўся мой "конь", — адказвае Маштакоў. — А ведаеце, колькі грошай на бензін трэба?.. Не акупяцца тыя паездкі. Хачу што-небудзь бліжэй знайсці.

На першым часе гэтае "бліжэй" мы шукалі разам, бо менавіта ў такой сітуацыі апынуўся і я. Паехалі ў Баравую, Сціслева, яшчэ некалькі падмінскіх вёсак, спадзеючыся знайсці закінуты пляц, пагутарылі з мясцовымі ўладамі, мо прапануюць нейкіх там сотак пяць. Нічога не атрымалася. Не сёння-заўтра Мінску спатрэбяцца новыя плошчы, горад паглыне гэтыя вёсачкі.

Не вельмі ласкава сустрэлі нас на Лагойшчыне, за кіламетраў трыццаць-сорак ад сталіцы. "Мы людзі памяркоўныя, — казалі нам у Чудзенічах. — Добра разумеем, як цяжка гараджаніну. Таму пад дачы шмат зямлі сваёй адвялі. А яшчэ многа закінутых сядзіб мінчанам за нішто прадалі. Меркавалі: у выйгрышы будзе і калгас, дапамогуць нам гараджане хоць у час уборкі ўраджаю. Ды дзе там! Як зямлю прасілі, гатовы былі на ўсё. А як атрымалі... Прыкладна з 300 чалавек-навасельцаў добра, калі тры-чатыры з іх разоў пару ў поле выйшлі".

Асабліва трывожыць мясцовых жыхароў не тое, што дачы растуць, як грыбы пасля дажджу, а экалагічная сітуацыя: уздоўж дарогі на Дзяніскі некалі былі пералескі. Раслі дубы, асіны, бярозы. Але вось побач з'явіліся садовыя таварыствы. Ад пералескаў засталіся адны хмызнякі — увесь будаўнічы лес дачнікі самавольна высеклі. А ў хмызнякі сталі выносіць бітае шкло, пустыя бляшанкі з-пад фарбы і кансерваў. Бывалі выпадкі, што на лугі выкідвалі кавалкі дроту, металічныя прадметы, асабліва цвікі. Менавіта іх сталі часта знаходзіць у ...страўніках захварэўшых кароў.

Вось якіх непажаданых суседзяў нажылі сабе калгаснікі Лагойшчыны. Таму і нас тут прынялі не надта ветліва. Выпадкова Міхаілу Маштакову ўдалося "прыляпіцца" да садаводчага таварыства за кіламетраў трыццаць пяць ад Мінска — знайшоўся свабодны ўчастак. І пабег мой знаёмы ў магазіны набываць будаўнічыя матэрыялы. Мала таго, што іх не хапае, дык такіх грошай каштуюць, што, як сказаў Маштакоў, апошнія штаны прадасі, а з даўгоў не вылезеш.

На самай справе: дзверы — 7 тысяч, акно — 10 тысяч рублёў... Далей можна не пералічваць. Усіх сваякоў абегаеш, а такіх грошай не пазычыш. Адмовіўся Міхаіл Паўлавіч ад будаўніцтва і вырашыў купіць гатовую дачу.

Аб'яў у газетах хапае. Выбралі мы больш-менш падыходзячы раён — за Вязынкай, у Баярах, і паехалі на агледзіны.

Сотак пяць зямлі. Домік нішто сабе. А як спыталіся пра кошт у гаспадара, то нам ледзь млосна не стала: адзін мільён рублёў. Ды такіх грошай ні я, ні Маштакоў і ў сне не бачылі.

За Баярамі — старгаваліся. Мясціна не з лепшых: узгорак, пясок, хатку рамантаваць трэба, але з цягам часу можна да парадку давесці.

Сабраліся мы, як кажуць, магарыч распіць, а тут сусед нашага гаспадара паклікаў і кажа: "Дарэмна вы тут дачу купляеце. Чацвёрты год ніхто тут нічога сабраць не можа: зладзеі ўсё падчышчаюць".

Новая праблема! Крадзеж на дачах стаў масавай з'явай. Вырываюць з каранямі не толькі гародніну, забіраюцца ў парнікі, але і ў сам домік. Выносяць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, мэблю... Даходзіць да варварства: што нельга вынесці — зламаюць, сапсуюць.

Адным словам, наша мара не збылася і на гэты раз.

Хутка наступіць дачны сезон. Не агледзішся, як з'явяцца ў мінчан і свежая капуста, і памідоры, і агуркі... Толькі не ў нас, "стосямідзесяцітысячнікаў". Некалі Міхаіл Маштакоў не мог дазволіць сабе купіць больш аднаго кавуна за год. Каб жа не здарылася так, што сёлета з-за дарагоўлі, росту цэн на бульбу, гародніну і іншы харч ён забудзе, як пахне кроп ці які смак у морквы.

Да гэтага ўсё ідзе...

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



Сакавік.

Фота М. ПЯТРОВА.

# ЛАТАРЭЮ — НЕ ПРАВОДЗІЦЬ

На тэрыторыі Рэспублікі Беларусь існуе некалькі відаў як сваёй, так і былога Саюза латарэй. Уладальнікі іх сутыкаюцца ў выпадку выйгрышаў з блытанінай і неразбярыхай. У сувязі з гэтым галоўны эканаміст Упраўлення грашовага абарачэння крэдыту і каштоўных папер Мінфіна РБ Ірына Нячаева каменціруе гэту складаную сітуацыю так:

— Цэны, што пастаянна мяняюцца, інфляцыйныя працэсы, а таксама скарачэнне аб'ёмаў выпуску асобных тавараў народнага спажывання, спыненне іх паставак з іншых рэспублік былога СССР крайне ўскладняюць магчымасці забеспячэння выйгрышаў у рэчавай форме. Асабліва вострай аказалася праблема з легкавымі аўтамабілямі. Як вядома, іх у Беларусі не выпускаюць, а паступленне з цэнтралізаваных крыніц з-за межаў рэспублікі спынена. Неаднаразовыя спробы наладзіць дзелавыя кантакты з прадпрыемствамі-вытворцамі легкавых аўтамабіляў з мэтай забяспечыць патрэбы рэспублікі для выдзялення іх уладальнікам латэрэйных білетаў, на якія выпалі такія выйгрышы, поспеху не мелі.

Застаецца прасіць прабачэння ва ўладальнікаў латарэйных білетаў, хто выйграў легкавыя аўтамабілі, і выплаціць ім грошы, згодна з указанай у табліцы розыгрышу сумай. Зрабіць павелічэнне сумы выйгрышу немагчыма ў сувязі з тым, што сабраныя ад рэалізацыі білетаў сродкі размеркаваны (для выдачы выйгрышаў па новых цэнах запатрабуецца звыш 100 мільёнаў рублёў). Да таго ж умовамі правядзення грашова-рэчавай латарэі прадугледжана, што ў выпадку адсутнасці тавару ўладальніку выйгрышнага білета выдаецца грашовы выйгрыш, указаны ў афіцыйнай табліцы тыражу. У выпадку павышэння цэн на момант атрымання тавару ўладальнік білета павінен даплаціць розніцу, а пры зніжэнні — атрымаць яе.

Ва ўзнікшых умовах прынята рашэнне ў 1993 годзе грашова-рэчавую латарэю не праводзіць.

# "СЭНС" І "НОНСЕНС", або ЯКІ ПРАВАПІС ЛІЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У 1930 годзе праект, падрыхтаваны камісіяй, быў апублікаваны і характарызаваўся тым, што прапаноўваў змяніць у першую чаргу два правілы Тарашкевіча — аб перадачы якання і аб абазначэнні асіміляцыйнай мяккасці. Яканне было вырашана перадаваць толькі ў першым складзе перад націскам, а ў другім і астатніх складах перад націскам і за націскам наогул не перадаваць. Тады ж вырашылі выкінуць мяккі знак перад мяккімі зычнымі. Усё гэта вельмі моцна спрасціла правілы, бо дзве згаданыя арфаграмы самыя частыя ў беларускай мове.

Лёс гэтага праекта вельмі сумны: хутка амаль усе яго аўтары былі рэпрэсіраваны, напачатку высланы, а потым згінулі ў турмах.

А жыццё працягвалася, і наспеўшая моўная рэформа патрабавала свайго здзяйснення. Калі ўзяліся за новы праект, то высветлілася, што ў Інстытуце мовазнаўства, нашчадка мовазнаўчай секцыі Інбелкульта, ніводнага спецыяліста не засталося. Людзі ж, якія рыхтавалі праект да рэформы 1933 года, карысталіся ў асноўным набыткамі папярэднікаў. Праўда, былі дакладна распрацаваны правілы перадачы акання і якання, істотныя змены з'явіліся ў граматыцы ў сувязі з тым, што ў правапіс уключылі канчаткі зменных часцін мовы. У правапісе ж зычных строга вытрымліваўся марфалагічны прынцып. Але хутка і гэты правапіс быў падвергнуты крытыцы.

Работа над правапісам, якім мы карыстаемся сёння, была закончана к 1957 году. У ім таксама засталося многа спрэчнага і нават недарэчнага, але ён адлюстроўвае ў асноўным правільна рысы сучаснай беларускай мовы. Правапіс 1933 года не прыняла частка вучоных, у тым ліку вядомых барацьбітоў за беларускае адраджэнне, якая к гэтаму часу пакінула Беларусь.

**— Каго вы маеце на ўвазе?**

— Канкрэтна я гавару пра Янку Станкевіча, беларускага вучонага, на жаль, мала вядомага на Бацькаўшчыне.

Да таго ж варта ўлічваць, што беларуская мова Заходняй Беларусі, якая была пад Польшчай, адрознівалася ад беларускай мовы Беларусі савецкай. У заходняй працягвалі вучыцца па граматыцы Тарашкевіча, у нас была граматыка Лёсіка. Дарэчы, мне здаецца, што цяперашняя ўзбуджаная моладзь, на жаль, вельмі мала цікавіцца работамі Лёсіка.

**— Усякі адыход ад агульнапрынятай граматыкі сёння тлумачыцца спасылкай на Тарашкевіча.**

— І гэта не заўсёды адпавядае сапраўднаму стану рэчаў. Асаблівай увагі заслугоўваюць работы Лёсіка, што выходзілі ў апошні перыяд яго дзейнасці. Ён быў не толькі навукоўцам, але яшчэ і вялікім практыкам, таму што і лекцыі чытаў, і з настаўнікамі сустракаўся, быў аўтарам школьных падручнікаў. Адным словам, не было ў Беларусі іншай фігуры, якая б у галіне правапісу так блізка стаяла да моўнай практыкі. І менавіта ён, пачаўшы як паслядоўнік Тарашкевіча, паступова ўдакладняў і ўдасканальваў некаторыя правілы.

Калі чуеш зараз па радыё "рукаў", "ногаў", "хвілінаў", "гадзінаў" — ёсць у нас такая праграма "Беларуская маладзёжная" — то смела можна сцвярджаць, што людзі, якія робяць яе, і блізка незнаёмыя з Лёсікам. А ён між тым следам за Тарашкевічам спецыяльна агаворваў, што ў беларускай мове ўжываецца толькі форма "рук", "ног", "чалавек"; "хвілінаў", "гадзінаў" дапускаецца, але часцей ужываецца з чыстай асновай "хвілін", "гадзін". Баюся, што многія беларускія эмігранты на гэты момант таксама не звяртаюць увагі.

**— Шмат у нашу сённяшнюю мову і прыйшло адтуль, з-за мяжы, калі сувязі з замежнай эміграцыяй, найбольш адукаванай яе часткай, ажывіліся, пашырыліся асабістыя і пісьмовыя кантакты. Мова тутэйшых беларусаў застракацела нязвыклымі словамі і формамі. Але мы забываем, што нашы землякі захавалі і мову, і яе правапіс такімі, якімі яны былі ў дні іх вучобы.**

— Нашых суайчыннікаў можна зразумець. Ім сапраўды цяжка адступіцца ад традыцый, засвоеных у маладосці.

**— А чаму мы так лёгка гатовы адступіцца ад сваіх традыцый?**

— Таму што не хочам лічыцца з тым фактам, што беларуская мова на працягу 70 гадоў развівалася на тэрыторыі Беларусі, а не на эміграцыі. Правільна заўважыў Масей Сяднёў, здаецца, у адным сваім выступленні ў "ЛіМе", дзе сказаў, што сваю мову ён безумоўна лічыць беларускай, але гэта мова як бы спынілася недзе ў 30-х гадах, а ў нас рух увесь час працягваецца, і з гэтым нельга не лічыцца. Перайманне мовы беларускіх эмігрантаў падаграецца сёння імкненнем абавязкова адмежавацца ад рускай мовы. Пры гэтым забываецца, што руская, украінская і беларуская мовы — гэта мовы адной групы і таму, колькі б мы ні адпіхваліся ад рускай мовы, мы не зможам зрабіць беларускую зусім непадобнай на яе. Колькі б паланізмаў мы ў яе ні заганялі.

**— Сапраўды, усё больш беларуская мова перагружаецца словамі з польскай мовы, часта без меры і не да месца.**

— Зусім верагодна, што праз некаторы час мы пачнем чысціцца ад польскіх уплываў, як цяпер чысцімся ад рускіх.

Чысціню беларускай мовы, безумоўна, трэба захоўваць, і мне здаецца, што тое пакаленне, якое існавала ад 30-х да 90-х гадоў, знайшло нейкую сярэднюю лінію, што робіць нашу мову дастаткова арыгінальнай і адначасова захоўвае вядомыя гістарычныя сувязі, ад якіх пазбавіцца немагчыма.

**— А як вы ставіцеся да таго, што сёння падводзіцца тэарэтычная база пад існаванне двух варыянтаў беларускай літаратурнай мовы?**

— Адмоўна, вядома. Бо гэта з'ява шкодзіць адраджэнню, ставіць звычайнага чалавека ў цяжкае становішча. Ён у разгубленасці, не ведае, на якую мову яму арыентавацца — на тую, што ў большасці праграм радыё і тэлебачання, ці на тую, што ў "Беларускай маладзёжнай". А што робіцца з нашымі часопісамі? Вучань бярэ "Маладосць" і бачыць адзін правапіс, потым трапляе яму ў рукі ўсім нам вядомая "Бярозка", і ён са здзіўленнем знаходзіць, што яна друкуецца на зусім іншай мове. Прычым у асабліва недарэчнае і цяжкае становішча мы ставім вучняў: сістэма, што складваецца пад уплывам школьнага навучання, непазбежна разбураецца. А згодна з Законам аб мовах, у бліжэйшы час ва ўсіх вышэйшых навучальных установах Беларусі будзе праводзіцца ўступны экзамен па беларускай мове. Што, скажыце, рабіць будзем з вучнем, які напіша "рукаў", "ногаў", лічыць гэта за памылку ці не?

**— А ці можна на падобныя пытанні знайсці адказ у нашых слоўніках?**

— Часам можна, а часам і не, бо і ў слоўніках дастаткова непаслядоўнасцей. Прывяду канкрэтны прыклад. Ёсць беларускае слова "сэнс", але перагортваем старонку гэтага самага слоўніка і чытаем — "нонсенс", "кансенсус". Або другі прыклад — "неплацёж", але "плацеж". Усё гэта проста не ўкладваецца ў рамкі разумнага, і ўсё гэта трэба выпраўляць. Недастаткова поўна адлюстраваны ў слоўніках граматычныя формы, у прыватнасці, таго ж роднага склону, пра які мы сёння згадвалі.

**— З уласнай практыкі магу сказаць, што і самы апошні Слоўнік беларускай мовы таксама далёка не дасканалы.**

— Безумоўна. Са слоўнікамі ў нас ёсць адна вялікая бяда: рыхтуюцца яны доўга, а працэс выдання павінен ісці хутка. Таму ў слоўніках шмат памылак, проста недагляду. І яшчэ. У нас няма ніводнага слоўніка, які рабіўся б адным чалавекам. Яны калектыўныя, а ў калектыве розныя погляды, розная кваліфікацыя, розная эрудыцыя.

**— Існаванне на сучасным этапе дзвюх беларускіх літаратурных моў нейкім чынам звязана з нацыянальным адраджэннем?**

— На жаль, некаторыя людзі разумеюць так: калі адраджэнне, то трэба вярнуцца да нейкага этапу і пачаць з нуля. А жыццё ідзе наперад, і я заўсёды прыводжу прыклад еўрапейскага адраджэння. Гэта ж не проста адраджэнне старажытнай культуры Грэцыі, Рыма. З адраджэннем пачаўся зусім іншы этап, калі з'явіліся сапраўдныя тытаны думкі, што былі роўнымі не толькі старажытным грэкам і рымлянам, а пайшлі значна далей.

А што датычыцца нашай мовы, то я заўсёды паўтараю, што цалкам паважаю традыцыі эміграцыі, якая захоўвае стары правапіс, але і эміграцыя, са свайго боку, павінна паважаць традыцыі, якія склаліся тут. Настаўніцтва, школа не прыме так званых нававўвядзенняў. Правапіс — правільнае, аднастайнае напісанне. Яго няма ў нашым "новым" друку, які арыентуецца невядома на што, там няма сістэмы. Напрыклад, слова "парламент" у адным і тым жа выданні пішацца "парлямант" і "парлямэнт".

У сувязі з гэтым я хацеў бы яшчэ сказаць пра тое, як абстаяць справы з асіміляцыйнай мяккасцю на пісьме. Вучоныя 20-х гадоў гаварылі, што перш за ўсё трэба ведаць дыялекты і на іх абапірацца. Цяпер забыліся, што асновай нашай літаратурнай мовы з'яўляецца не пісьмовая традыцыя, якая ўзыходзіць да стараславяншчыны, а жывая гутарковая мова, якая, на вялікае наша шчасце, не знішчана, і старое пакаленне адно за адным захоўваюць народныя традыцыі. А калі паглядзець на асіміляцыйную мяккасць з пункту погляду дыялектаў, то на Беларусі ў многіх месцах яна прадстаўлена слаба або не прадстаўлена зусім. Прыняўшы перадачу на пісьме асіміляцыйнай мяккасці, мы не толькі парушым пісьмовую традыцыю, а і паставім у надзвычай няроўнае становішча вялікія групы дзяцей, якім давядзецца гэта асвойваць.

Усе народы робяць так: у правапіс уключаюць толькі тое, што аб'ядноўвае людзей, а не тое, што іх раз'ядноўвае. І з гэтага, думаю, варта зыходзіць і нам, беларусам.

**— Як вы думаеце, Аляксандр Іосіфавіч, калі Закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы пачне дзейнічаць па-сапраўднаму?**

— Перш за ўсё я перакананы, што ніякага закону аб мове наогул быць не павінна. Але гэта пры нармальных умовах і пры нармальным становішчы нацыянальнай мовы. У нас жа старраннае выцясненне беларускай мовы вымусіла такі крок. Наш закон не накіраваны супраць якой-небудзь іншай мовы. Ён абараняе беларускую. Калі зробім дзве дзяржаўныя мовы, вернемся да той сітуацыі, якая была, а можа нават і да горшай, ва ўсякім разе тады беларускай мове не выжыць.

Інстытут мовазнаўства, канешне, за тое, каб адраджэнне ішло як мага хутчэй. Але мы разумеем таксама, што пакуль пэўны этап яго не падрыхтаваны, не трэба спяшацца. Час, цярпенне, праца дапамогуць вярнуць мову ў сям'ю, у школу, у справаводства.

І яшчэ хачу сказаць, што мы хутчэй даб'емся поспеху, калі не будзем змагацца адзін з адным па дробязях, калі ўсе тыя, хто называе сябе адраджэнцамі, аб'яднаюць свае намаганні.

Гутарыла
Дзіяна ЧАРКАСАВА.

*З ГІСТОРЫІ ХРЫСЦІЯНСКА-ДЭМАКРАТЫЧНАГА РУХУ*

# КАНСТЫТУЦЫЙНА-КАТАЛІЦКАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ

Канстытуцыйна-каталіцкая партыя Беларусі і Літвы не прыдбала сабе асаблівых сімпатый сярод палітыкаў і гісторыкаў. З першых дзён свайго існавання і да амаль апошняга часу яна знаходзілася пад рэзкай крытыкай і "справа", і "злева". У 1906 годзе чарнасоценная газета "Белая Русь" абвінавачвала ККП у польскім шавінізме, у спробе пабудаваць на расійскай зямлі польскую дзяржаву. З другога боку, прадстаўнік кансерватыўнай часткі польскіх землеўладальнікаў І. Корвін-Мілеўскі абвінавачваў партыю і яе стваральнікаў у забыцці польскіх нацыянальных інтарэсаў, у імкненні распаліць полымя рэвалюцыйнага хаосу ў краі. Л. Васілеўскі, вядомы дзеяч ППС, навуковец і публіцыст, бачыў у дзейнасці партыі адкрыты клерыкалізм, імкненне ўзмацніць пазіцыі касцёла, каб у згодзе з землеўладальнікамі трымаць народ у цемнаце і невуцтве.

Савецкая гістарыяграфія глядзела на дзейнасць ККП, як і на ўсе астатнія палітычныя партыі, бальшавіцкімі вачыма, таму партыю ацэньвалі як клерыкальную, памешчыцкую, контррэвалюцыйную, падкрэслівалі, што яна актыўна супрацоўнічала з польскімі нацыянальнымі дэмакратамі, што свае "рэакцыйныя мэты партыя спрабавала скрыць пад маскай каталіцызму, а для большай папулярнасці сярод насельніцтва выкарыстоўвала ў сваёй праграме многія тэзісы праграм іншых партый і ў першую чаргу партыі кадэтаў".

У той жа час прызнавалася, што партыя мела вялікі поспех у Віленскай і Гродзенскай губернях, што яе падтрымлівалі розныя колы насельніцтва, у тым ліку сяляне і рабочыя. А К. Шабуня, беларускі гісторык, нават лічыў, што ККП сваёй агітацыяй у значнай меры паралізавала сялянскі рух.

Сёння ўзнікла неабходнасць больш аб'ектыўна ацаніць дзейнасць канстытуцыйна-каталіцкай партыі Беларусі і Літвы, яе месца ў палітычнай барацьбе, тым больш, што ККП з'яўлялася адной з першых легальных палітычных партый краю ў пачатку XX стагоддзя.

Ініцыятарам стварэння гэтай партыі быў віленскі біскуп барон Эдвард Роп. Значную ролю адыграў і яго сакратар прэлат І. Садоўскі. Біскуп Роп 16 гадоў узначальваў Тыраспальскую дыяцэзію, а ў 1904 годзе быў прызначаны віленскім біскупам. Улады, калі давалі згоду на яго кандыдатуру, відаць, разлічвалі на памяркоўнасць і кансерватызм гэтага арыстакрата па паходжанню. Але пралічыліся. Рэдактар "Kuriera Litewskiego" і дэпутат І Дзяржаўнай думы Ч. Янкоўскі пісаў пазней, што энергічная натура барона Ропа не магла задаволіцца толькі рэлігійнай дзейнасцю. Віленскі біскуп уключаецца ў палітычную барацьбу, становіцца ўладальнікам трох перыядычных выданняў: "Nowiny Wilenskie", "Towarzysz pracy", "Przyjacel ludu".

У пачатку студзеня 1906 года з'яўляецца першы варыянт праграмы ККП, пад якім, акрамя подпісу біскупа, стаяла яшчэ сем прозвішчаў: Ю. Монтвіл, дырэктар Віленскага зямельнага банка; Ст. Лапацінскі, старшыня Віцебскага сельскагаспадарчага таварыства; ксяндзы Мацеевіч і Міронас; служачы Стэфаноўскі; студэнты Змітровіч і Лаховіч. Такое багатае сааўтарства павінна было прадэманстраваць адзінства розных сацыяльных груп, нацыянальную згоду, але, здаецца, не ўсе з падпісаўшых унеслі аднолькавы ўклад у распрацоўку праграмы. Не выпадкова, што, калі пачалася палеміка вакол тэзісаў праграмы, а галоўным апанентам адразу ж стала найбольш кансерватыўная частка польскіх памешчыкаў, адказваў амаль усім апанентам толькі віленскі біскуп.

Канчаткова ККП аформілася 7 лютага 1906 года. На ўстаноўчым сходзе прысутнічалі прадстаўнікі каталіцкага духавенства, землеўладальнікаў, інтэлігенцыі, дэлегаты ад рабочых і сялян. У гэты дзень быў зацверджаны канчатковы варыянт праграмы, выбраны ЦК. Цікава, што такія ж вядомыя прадстаўнікі польскай грамадскасці Беларусі і Літвы як Ст. Лапацінскі і Ю. Монтвіл, якія прысутнічалі на сходзе, не ўвайшлі ў яго склад. Усё ж такі вярхі польскага грамадства, як землеўладальнікі, так і інтэлігенцыя, не падтрымалі намаганняў барона Ропа. І таму ў ЦК, за выключэннем біскупа, апынуліся людзі малавядомыя ці наогул невядомыя ў краі.

У пачатку 1906 года назіраўся імклівы рост колькасці членаў партыі. Яе сацыяльны склад быў даволі разнастайны, хаця галоўнай апорай былі сяляне-католікі з літоўскіх і беларускіх вёсак, частка дробнай шляхты і інтэлігенцыі, каталіцкай па веравызнанню. Больш за ўсё прыхільнікаў партыя знайшла ў Віленскай і Гродзенскай губернях. Аб яе поспехах сведчыць і тое, што з сямі дэпутатаў ад Віленскай губерні ў І Дзяржаўную думу шасцёра падтрымлівалі ККП. Адным з дэпутатаў быў сам віленскі біскуп. Легальна партыя праіснавала нядоўга. У пачатку сакавіка 1906 года біскупу Ропу пад націскам Сінода прыйшлося пакінуць кіраўніцтва партыяй, што ў значнай меры аслабіла яе ўплыў. У гэтыя ж дні рашэннем віленскага генерал-губернатара Кшывіцкага (пасля тэлеграмы міністра ўнутраных спраў Дурнаво) усе сходы гэтай партыі былі забаронены. Але біскуп у апошнюю хвіліну зрабіў усё, што мог, каб аслабіць удары па партыі. Ён выступіў у друку і растлумачыў, што быў вымушаны пакінуць кіраўніцтва партыяй, і прасіў яе прыхільнікаў захоўваць у сэрцах запаветы партыі. Відаць, біскуп спадзяваўся, што далейшае развіццё палітычных падзей у Расіі можа прывесці да адраджэння ККП, і гэта перадалося прыхільнікам партыі. Гродзенскі губернатар у верасні 1906 года дакладваў у Вільню: "ККП, хотя и признается официально закрытой, но фактически в настоящее время продолжает нелегально существовать".

Наколькі абгрунтаванымі з'яўляюцца абвінавачванні гэтай партыі ў польскім нацыяналізме, клерыкалізме, абароне інтарэсаў памешчыкаў, контррэвалюцыйнасці? Адказаць на пытанні можна толькі на аснове аналізу праграмы партыі і практычнай дзейнасці яе кіраўніка біскупа Ропа.

Гэты аналіз, на наш погляд, не дае права выстаўляць абвінавачванне ў польскім нацыяналізме. У праграме падкрэслівалася права кожнага народа развіваць сваю культуру ва ўмовах грамадзянскай і палітычнай роўнасці. Іншая справа, што калі б гэта здзейснілася, то польскія ўплывы ў краі значна ўзмацніліся б. Цікава, якімі былі адносіны біскупа Ропа да беларускага руху. Ксёндз А. Станкевіч пазней пісаў: "Біскуп Роп не раз выказваў сваю прыхільнасць да беларусаў і не вахаўся называць фанатыкамі тых, хто не хацеў прызнаць прыроджаных правоў беларускай мовы. Пасылаючы прадстаўнікоў духавенства ў камісію па мовах пры генерал-губернатары Фрэзэ, біскуп адзначыў рэлігійныя патрабаванні беларускага народа". Ліст біскупа можна ўбачыць у РДГА. Дакумент датаваны 8.08.1905 года. Вось што, у прыватнасці, пісаў біскуп: "Белорусский язык должен быть на деле, а не на словах признан наречием, имеющим право на существование и развитие, а поэтому принят и изучаем наравне с великорусским языком в народных школах, и его литературе не следует ставить преград и препятствий равно со шрифтом русским, как и латинским... Не желая быть полонизатором белорусского народа, что не входит в задачи религии, при объяснении детям значения изучаемых из книг истин веры следует употреблять язык, которым говорит народ у себя дома, т.е. белорусский, и со стороны духовенства работать в том смысле, чтобы образовать общий, по возможности всем понятный литературный белорусский язык".

І зноў звернемся да А. Станкевіча: "Каб ацаніць як трэба вагу гэтага кроку, мы павінны прыпомніць, што тады ў нас толькі пачалі з'яўляцца першыя праблескі адраджэння беларускага народа".

Клерыкалізм у поўнай меры адчуваецца ў школьным раздзеле праграмы. Сумесны кантроль грамадскасці і духавенства над школай мог лёгка пераўтварыцца ў каталізацыю навучання. Аб гэтым адкрыта пісалі некаторыя прыхільнікі ККП. С. Маркевіч, напрыклад, заявіў: "У школах павінна выкладацца каталіцкая навука, г.зн. навука згодная з духам касцёла".

У раздзелах, прысвечаных арганізацыйным структурам партыі, звяртае на сябе ўвагу, што ў партыйных камітэтах усіх узроўняў адно месца абавязкова заставалася за духоўнай асобай. Але рабілася агаворка аб часовасці гэтага палажэння. За выключэннем гэтых момантаў праграма носіць свецкі характар. Яна не ставіць каталіцкі касцёл над грамадствам.

Варта таксама адзначыць, што ККП шукала магчымасць палепшыць становішча сялян, не закранаючы асноў памешчыцкага землеўладання, а абапіраючыся на падтрымку дзяржавы. І ў той час, і пазней біскуп Роп быў упэўнены, што ўзняць дабрабыт сялян магчыма праз камасацыю і стварэнне хутарскіх гаспадарак. Але ў канцы 1906 года ён ужо падкрэсліваў, што пры гэтым непазбежна адчужэнне некаторай часткі памешчыцкіх зямель.

Цікавасць выклікаюць адносіны кіраўніцтва ККП да рэвалюцыйнага руху. Вось што пісаў Роп: "Обеспокоенный положением в деревне, где социалисты-агитаторы возбуждали народ против землевладельцев и ксендзов,.. я решил, что необходимо спасать народ от социалистической напасти". У гэтым сэнсе можна казаць аб контррэвалюцыйнасці ККП. Але, калі ўлічваць канкрэтна-гістарычныя ўмовы Расіі таго часу, то праграма ККП улівалася ў агульнае рэчышча барацьбы супраць самаўладдзя і была рэвалюцыйнай. Зусім не выпадкова польская "эндэцыя" лічыла дэпутата І Дзяржаўнай думы Э. Ропа "левым".

Крытыкі "справа" папракалі кіраўніцтва партыі ў тым, што шматлікія палажэнні яе праграмы былі запазычаны ў кадэтаў. У савецкай гістарыяграфіі папрок гэты застаўся, але ён азначаў ужо зусім іншае — абвінавачванне ў контррэвалюцыйнасці. Ці мела месца запазычанасць, ці, у крайнім выпадку, уплыў кадэтаў? Адмаўляць уплыў цалкам нельга. Вось што пісаў Ч. Янкоўскі аб віленскіх настроях 1905-1906 гадоў: "Гэта быў перыяд кадэтызму. Нягледзячы на тое, што спробы стварэння спецыяльнага польскага аддзела партыі кадэтаў на Беларусі і Літве скончыліся няўдала, але ідэі кадэтаў былі часткай тагачаснай віленскай атмасферы".

І ўсё ж думаецца, што ўплыў кадэтаў моцна перабольшаны. Біскуп неаднаразова падкрэсліваў свае негатыўныя адносіны да кадэтаў. Ён пісаў: "Эта партия полностью расходится не только с христианской справедливостью, но и с понятиями нашего народа". Затое ён згаджаўся з тымі, хто бачыў у праграме і дзейнасці ККП падабенства з "Цэнтрам" у германскім парламенце. Ч. Янкоўскі лічыў, што біскуп і ККП стаялі на пазіцыях хрысціянскай дэмакратыі. І, на наш погляд, менавіта тут трэба шукаць ідэйныя вытокі праграмы ККП. Гэта пацвярджае і аналіз публікацый такіх выданняў, як "Towarzysz pracy" і "Przyjacel ludu", разлічаных на рабочых і сялян. "Towarzysz pracy", напрыклад, выходзіў як орган хрысціянскай дэмакратыі. Яго рэдактар Л. Багдановіч, высвятляючы пазіцыю газеты, пісаў: "Хрысціянская дэмакратыя не супраць капітала, яна супраць капіталізму. Мы не вядзём класавай барацьбы, але патрабуем павагі да чалавека". У гэтым жа нумары рэдакцыя заклікала рабочых ствараць прафсаюзы і змагацца за лепшыя ўмовы працы і жыцця.

Трэба адзначыць, што якраз у 1906 годзе ў Польшчы ствараецца т.зв. "Каталіцкі саюз", а ў красавіку таго ж года ў Варшаве адбываецца І з'езд хрысціянскай дэмакратыі. Удзельнічаў у ім біскуп Роп. Дарэчы, адно з рашэнняў з'езда датычыла Вільні. Было вырашана арганізаваць у гэтым горадзе грамадскія курсы па азнаямленню з прынцыпамі хрысціянскай дэмакратыі. Яны сапраўды адбыліся ў верасні 1906 года. З лекцыямі выступалі даволі вядомыя ў Польшчы дзеячы "хадэцыі".

Аднак ККП многім адрознівалася ад традыцыйных партый хрысціянскай дэмакратыі. І ў першую чаргу тым, што яе праграма ўсё ж такі выходзіла за рамкі існуючых дзяржаўных форм і прадугледжвала рэфармаванне дзяржаўнага ладу. ККП не мела і нацыяналістычнай накіраванасці, якой адрознівалася, напрыклад, польская хадэцыя 20-30-х гадоў у адносінах да славянскіх меншасцяў і яўрэяў у Польшчы. А па меркаванню А. Станкевіча, менавіта віленскі епіскап не дапусціў яўрэйскага пагрому ў Вільні ў 1905 годзе.

Мы мяркуем, што ёсць усе падставы сцвярджаць, што ККП не з'яўлялася нейкай палітычнай гульнёй віленскага епіскапа, а была часткай моцнага хрысціянска-дэмакратычнага руху, які пачаў паступова пранікаць у межы Расійскай імперыі. Гэта была спроба каталіцкага касцёла Беларусі і Літвы пераўтварыцца ў сур'ёзны фактар палітычнага жыцця якраз напярэдадні выбараў у І Дзяржаўную думу. І нягледзячы на кансерватызм эканамічных поглядаў, у палітычнай барацьбе ў Расіі ў перыяд рэвалюцыі 1905-1907 гадоў партыя займала месца сярод левых дэмакратычных сіл.

**Аляксандр СМАЛЯНЧУК.**

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

томе Каэтану Касовічу адведзена ўсяго 5 радкоў, але, акрамя таго, што займаўся санскрыталогіяй, адзначана, што ён і іраніст, гебраіст. Каэтан Касовіч добра ведаў шляхі жыдоўства ў свеце, яго гісторыю і культуру.

# ПРОЗВІШЧА, АДКРЫТАЕ НАНАВА

За гэта як віцебскія сыны Ізраіля, так і маскоўскія, а потым і пецярбургскія жыды — усе яны пакланяліся яму.

Каэтан Касовіч, як іраніст, вывучаў Авесту, разбіраўся ў клінапісе. Удзяляў увагу таджыкскай мове.

Упершыню ў Расійскай імперыі ён пераклаў і пракаменціраваў індыйскія "Махабхарату" і "Перамога светлай думкі".

З Масквы К.Касовіч перабіраецца ў Пецярбург. Спачатку ён працуе цэнзарам жыдоўскай літаратуры, а пасля пераходзіць на працу ў імператарскую публічную бібліятэку, дзе яму было даручана рэдагаванне навуковых прац, а таксама разбор і даследаванне старажытных рукапісаў, бо, не ведаючы мовы, на якой яны напісаны, ніхто да гэтых манускрыптаў не мог падступіцца. Потым ён выдасць збор старажытнаперсідскіх клінападобных надпісаў.

Неўзабаве Каэтана Касовіча накіроўваюць у камандзіроўку ў Лондан, дзе ён здзіўляе англійскіх мужоў у мантыях сваімі ведамі і працавітасцю.

Вярнуўшыся з Англіі, Касовіч стварае (1864 год) у Пецярбургскім універсітэце першую ў краіне кафедру санскрыталогіі, ён атрымлівае званне прафесара. Да гэтага часу ім ужо выдадзена частка "Санскрыта-рускага слоўніка". Загадваў кафедрай і чытаў лекцыі Касовіч бясплатна. Для нашага часу гэта незразумела.

Касовіч, як і раней, працуе дні і ночы, ён друкуе індыйскі эпас "Рамаяну" і старажытнаперсідскі "Зенд-Авесты" і каментарыі да іх.

У 1865 годзе Касовіч ужо ў Парыжы, дзе каля года працуе над выданнямі старажытных рукапісаў Усходу. Слава даўно хадзіла за Каэтанам Касовічам: у Харкаве яму надаюць вучоную ступень доктара параўнальных навук, у Еўропе, у яе буйнейшых сталіцах — Берліне, Парыжы, Лондане, яго называюць акадэмікам.

Цяжка паверыць гэтаму факту, але яго варта прывесці тут. Створаная беларусам К.Касовічам граматыка жыдоўскай мовы выдавалася дваццаць адзін (!) раз. За сваю апантанасць у навуцы, падзвіжніцкую працу Каэтан Касовіч быў абраны членам Імператарскага Расійскага геаграфічнага таварыства (1849 год), чым вельмі ганарыўся.

Памёр К.Касовіч 26 студзеня (7 лютага) 1883 года і пахаваны на Смаленскіх могілках у Санкт-Пецярбургу. У апошні шлях яго праводзіла мноства людзей.

Застаецца толькі дадаць, што ў роднай яму Беларусі пакуль што нічога не выдадзена пра славутага земляка, яго імя амаль што забыта.

**Міхаіл МАЛІНОЎСКІ.**

*КАНСТРУКТЫЎНАЯ ДАБРАТА МАСТАЧКІ АЛЕНЫ ЛОСЬ*

# ПАЗНАННЕ СВЕТУ ПРАЗ МАЛЮНАК



У кожнага з нас была свая першая казка. Многія памятаюць вокладку кнігі дзяцінства. А калі забудуцца, то ўбачаць яе абавязкова ў бацькоўскім доме. І з гэтай вокладкай, з малюнкамі ў кнізе ўсё нібы вернецца: і пяшчота маці да цябе, маленькага, і дзіцячыя радасці, і крыўды. На некалькі хвілін жыццё зноў стане простым, надзейным.

Калі мае аднагодкі згадаюць кніжкі свайго дзяцінства, то сярод іх яны абавязкова знойдуць тую, што ілюстравала Алена Лось. І раптам зразумеюць, што ўжо даўно ведаюць мастачку. Алена Лось — аўтар ілюстрацый да дзесяткаў кніг. Ёсць у яе дыплом імя Ф. Скарыны Рэспубліканскага і дыплом III ступені Усесаюзнага конкурсаў за ілюстрацыю зборніка "Ладачкі-ладкі" (сумесна з У. Басалыгам і Н. Паплаўскай).

А пачыналася ўсё з дзяцінства. Мастачка расказвае:

— Ружаны, горад, у якім я вырасла, — месца рамантычнае. Ва ўспамінах ён бачыцца адразу з палацам Сапегаў, які стаіць на гары. Ён згарэў даўно, аднак засталася каланада, царква. Яны ствараюць пэўны настрой. І яшчэ была прырода. Цудоўныя пейзажы дзяцінства не забываюцца. Ды ўсё жыццё мяне цягнула да прыроды. Я наогул лічу сябе сельскім мастаком.

Алена Георгіеўна нарадзілася ў сям'і ўрача. У іх доме было шмат кніг, ілюстраваных часопісаў, рэпрадукцый. Аднак у час вайны амаль усё згарэла. Цудам захаваліся фарбы. Можна было маляваць. Яна гэта любіла рабіць. Алена Георгіеўна згадвае, што не было ў яе дзяцінстве чалавека, які мог аказаць нейкі ўплыў на выбар прафесіі, але з самага пачатку яе прываблівала графіка. У Вільнюскі мастацкі інстытут паступіла менавіта на аддзяленне графікі і ілюстрацыі. І дыпломная праца ў А.Лось была ілюстрацыя да казкі Пятраса Цвіркі "Граф і прачка". Алена Георгіеўна вельмі любіць Вільню.

— З гэтым горадам мяне звязвае многае. Мой бацька вучыўся там ва універсітэце, мама — у гімназіі. Я там нарадзілася. Потым прыехала туды вучыцца. Вільня пакарае сваёй прыгажосцю, старадаўнасцю. Горад у часы майго студэнцтва быў вольны. Памятаю, вучыліся тады з намі і рускія, і беларусы, студэнты з Сярэдняй Азіі. Вільня і застанецца для мяне цудоўным горадам майго юнацтва. Таму і пакідала яе з вялікім сумам. А прычынай гэтаму былі мяккія намёкі на тое, што ў маіх работах няма літоўскага духу. Можа яно так і было. Толькі я не вучылася ж нідзе, акрамя інстытута, маляваць. Мела, здаецца, толькі тое, што набыла ў інстытуце.



Алена Георгіеўна пакінула Вільню. І ў Мінску, як яна кажа, усё пачало наладжвацца. Працавала ў выдавецтве, працавала для дзяцей. Яе работы трэба бачыць. Як і вочы дзетак, якія запальваюцца, калі глядзяць на канька-гарбунка ці на вясёлае сонейка. Я гартаю кнігу Д. Бічэль-Загнетавай "Дзічка". Ілюстрацыі А. Лось. Дзіцячыя вершы з яркімі малюнкамі, насычанымі дабрынёй. Кніга нагадвае цацку. Думаеш: надрукуй яе выдавецтва на лепшай паперы, не было б ёй роўнай.

Пытаюся ў Алены Георгіеўны, дзе яна бярэ сюжэты для сваіх ілюстрацый. Адказ выліўся ў цэлую гісторыю:

— Я заўсёды іду ад народнай казкі. Яшчэ ў юнацтве я пачала вывучаць першакрыніцы фалькларыстаў, этнографаў. Да тэкстаў рабіла ілюстрацыі. Пасля пачаліся мае вандроўкі па Беларусі, Расіі. Часцей за ўсё я ездзіла на Палессе. Там спынялася ў якой-небудзь хаце і працавала. Назірала, малявала. Усе мае ілюстрацыі — гэта падгледжаныя кавалачкі жыцця. Дарэчы пра беларускія казкі. Ці заўважылі вы, што ў іх мала каралеў, каралёў? Яны часта бытавыя, пра жывёл. У іх — народнае разуменне жыцця на ўзроўні гумару, побыту. На маіх ілюстрацыях да казак няма нават выдуманай вышыўкі на кашулях, ручніках. Ёсць тое, што я бачыла ў сялян. На Палессі яшчэ пяць гадоў назад можна было сустрэць адзенне з традыцыйнымі ўзорамі. Калі я малюю інтэр'ер сялянскай хаты, то ўспамінаю эскізы, што рабіла ў тых мясцінах. Вы можаце паглядзець на гэты малюнак (Алена Георгіеўна паказвае ілюстрацыю з кнігі, на якой калыска з дзіцем у хаце, здаецца, з мінулага стагоддзя). Гэтую калыску я пісала з натуры. Яна з палатна, нацягнутага на аснову. Хаты на Палессі часам сапраўды нагадвалі кавалачак казкі. І было Палессе кутком Беларусі, дзе захоўвалася народная беларуская культура. Такіх месцаў, мне здаецца, больш, бадай, няма. Таму тое, што зрабіла чарнобыльская аварыя з Палессем, я ўспрымаю як непапраўную катастрофу. Зараз я туды не езджу. Аднак ведаю, што моладзь бяжыць адтуль, а бабулькі паціху паміраюць. Трагедыя.

Ёсць у Алены Лось кніга, дзе і тэкст, і ілюстрацыі — яе. Называецца яна "Дзесяць дзён у Барку". Кніга для дзяцей пра Палессе. Разышлася яна хутка.

Да адной з самых вядомых казак, што ілюстравала мастачка, яна звярталася двойчы. Я бачу ў гэтым сур'ёзнае стаўленне А.Лось да сваёй працы. Яна ж тлумачыць проста: праз 10 гадоў пасля выхаду першай "Залатой яблынькі" ёй прапанавалі аформіць яе яшчэ раз. І кніга атрымалася нават лепшай, яна большага фармату. Выкананы ілюстрацыі ў зусім іншай манеры, тэхніцы. І Алена Георгіеўна лічыць, што вельмі цікава звяртацца да старых прац і рабіць іх па-новаму, бо чалавек ніколі не паўтараецца. Я запытала ў мастачкі, ці знаходзіць яна радасць у працэсе працы. Яна адказала, што праца — гэта пошук, часта пакутлівы. Шукаеш форму, думаеш над тэхнікай. Часам здаецца, што не ведаеш нічога, што робіш усё ўпершыню. Радасць прыходзіць ад знаходак, ад сваіх маленькіх адкрыццяў.

Ілюстрацыі да дзіцячых казак Алены Лось здзіўляюць незвычайнай дабрынёй. Калі я гляджу на малюнкі ў кнізе З. Бядулі "Скарб", лаўлю сябе на думцы, што невыносна хочацца назад у дзяцінства. У ілюстрацыях мастачкі пануе нешта такое, што можна назваць ідыліяй. Непасрэдныя людзі. Неверагодная дабрыня на твары старога. Смеласць дзяцінства на твары ўнука. Мяккія лініі, цёплыя фарбы ствараюць непаўторны свет — дзяцінства і казкі.

— Дзіцячыя малюнкі, — кажа А. Лось, — не могуць быць нядобрымі. У іх не павінна быць моцнай стылізацыі. У жыцці хапае злога. Казка існуе для таго, каб несці дабро. А ілюстрацыі павінны падказваць ідэю. Дабро перамагае. Таму нашто рабіць страшным беднага ваўка? Я памятаю, як мой сын, калі быў маленькім, хаваўся ад Бабы Ягі, якая палохала яго з экрана тэлевізара. Дзеці заўжды плачуць, калі гіне Чырвоная Шапачка. Таму ў ваўка павінна быць нешта такое, што падкажа: яна гіне не па-сапраўднаму. У дзіцячых кнігах не шмат тэксту. Ілюстрацыя яго дапаўняе. Таму галоўнае патрабаванне да яе — яна павінна жыць. Сухія акадэмічныя творы ў дзяцей поспеху мець не будуць.

Канешне, Алена Лось займаецца не толькі дзіцячай кнігай. Яна сама кажа, што казка — гэта толькі палова яе творчасці. У яе былі кнігі на гістарычныя тэмы. Ілюстравала яна выданне "Слова аб палку Ігаравым". Гэта была грунтоўная праца, і кніга атрымалася цікавай. Піша мастачка нацюрморты, пейзажы. Праўда, выдавецтва ў мінулым годзе не заказала ёй ніводнай кнігі. Тут усё зразумела: дзіцячыя кнігі выдаваць нявыгадна. Іх месца займаюць кнігі зусім іншага плана, камерцыйныя. Так што беражыце казкі для сваіх дзяцей і ўнукаў, калі не хочаце купляць імпартныя за вялікія грошы.

А мне застаецца падзякаваць Алене Георгіеўне за сустрэчу з ёю і яе творамі. Падзякаваць ад нашых дзетак, якім пашанцавала гадавацца на яе малюнках, якія пазнавалі свет праз іх. І сваім будучым дзецям я пажадала б таго ж.

**Алена СПАСЮК.**

## ЁСЦЬ БАРДЫ НА БЕЛАРУСІ

17—19 лютага ў Мінску прайшоў І конкурс беларускай бардаўскай песні. Яго правяло Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Рэспублікі Беларусь. Галоўная ўмова конкурсу — спяваць на роднай мове. Што для кожнага выканаўцы такой з'явіцца беларуская мова, было само сабой зразумелым. У першым туры барды спявалі свае песні, у другім — па жаданню песні на вершы беларускіх паэтаў. Наўрад ці мог бы адбыцца конкурс без спонсараў. Сярод іх былі фірма "Дайнова", "Красіка", "Інтэрканкурэнт", МП "Філантрапіст". Апаратуру пазычылі ў хрысціянскага гуртка "Каўчэг". На жаль, яна часам падводзіла: у самыя нязручныя моманты пачынала са сцэны нешта пішчаць, гудзець. Але гэта дробязі. Галоўнае, што былі песні, розныя па тэматыцы, па ўзроўню прафесійнасці выканання. Барды спявалі пра каханне. Пра Чарнобыль. Пра Беларусь. Многія з іх звярталіся да Бога. Нават грэка-каталіцкая грамада прысудзіла прыз шукальніку Бога. Яго атрымалі Валерый Пазднякевіч і Галіна Смоляк.

Журы прызначыла грашовыя прэміі 25, 15, 10 тысяч рублёў адпаведна за 1, 2, 3 месца. 3-е месца падзялілі між сабой Іван Беладубенка і Вольга Цярэшчанка. 2-е заняў Эдуард Акулін. Ён жа атрымаў прыз часопіса "Роднае слова" і прыз грэка-каталіцкай грамады. Галоўным жа пераможцам конкурсу стаў выкладчык філалагічнага факультэта БДУ Алег Атаманаў. Прыз сімпатый гледачоў уручылі Віктару Шалкевічу.

Хочацца спадзявацца, што мы яшчэ неаднойчы пачуем імёны выканаўцаў, якія адкрыў І конкурс бардаўскай песні. У бліжэйшы час яго арганізатары плануюць выдаць калектыўны зборнік аўтарскай песні. Хай у іх гэта атрымаецца.

**А. ВІКТАРАВА.**

## ФУНДАЦЫЯ ІМЯ ЛУЦКЕВІЧАЎ

Утворана Фундацыя сацыяльных ініцыятыў і даследаванняў імя братоў Івана і Антона Луцкевічаў. Яна мае сваёй мэтай вывучэнне і прапаганду гісторыі, тэорыі і практыкі як беларускага, так і замежнага сацыял-дэмакратычнага руху, даследаванне праблем сучаснага сацыяльнага і культурнага развіцця і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Дзеля выканання сваіх задач фундацыя можа стаць асацыяваным сябрам блізкіх па мэтах арганізацый у Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі.

Асаблівую ўвагу фундацыя будзе надаваць вывучэнню і публікацыі творчай спадчыны выдатных дзеячаў беларускага адраджэння і сацыяльна-дэмакратычнага руху, найперш І. і А. Луцкевічаў, ушанаванню іх памяці, спрыяць аднаўленню Віленскага беларускага музея, створанага братамі Луцкевічамі. Фундацыя будзе вывучаць вопыт дзейнасці замежных, асабліва еўрапейскіх, сацыял-дэмакратычных партый, пашыраць сярод людзей наёмнай фізічнай і разумовай працы і прадпрымальнікаў ідэі беларускай і сусветнай сацыяльнай дэмакратыі, прапагандаваць прынцыпы палітычнай дэмакратыі і сацыяльнага партнёрства.

Сярод заснавальнікаў фундацыі вядомыя людзі беларускай навукі і культуры. Прэзідэнтам абраны акадэмік Р. Гарэцкі.

## "ЯНКА КУПАЛА І СЛОНІМШЧЫНА"

Так называецца невялікая, але прыгожа аформленая кніжачка, аддрукаваная ў Слонімскай узбуйненай друкарні. Аўтар яе — мясцовы малады даследчык беларускай літаратуры і наш аўтар Сяргей Чыгрын. Па крупінках сабрана амаль усё, што звязвала песняра з гэтым кутком Бацькаўшчыны. У вёсцы Вялікая Кракотка, напрыклад, упершыню ў Беларусі было прысвоена імя Янкі Купалы мясцовай бібліятэцы. Тут два разы пабывала жонка паэта У. Луцэвіч. Ды і сам Я. Купала ў 1939 годзе наведаў Слонім, сустракаўся з Г. Леўчыкам і С. Новікам-Пеюном.

У шчырых адносінах пясняр быў са слонімцамі Я. Хлябцэвічам, А. Пракапчуком, К. Пушкарэвічам, В. Таўлаем, А. Іверсам, К. Лейкам і інш. А А. Лойка ў 1982 годзе выдаў кнігу пра Я. Купалу ў вядомай серыі "ЖЗЛ".

Аўтар уключыў у кніжачку і вершы паэтаў Слонімшчыны, прысвечаныя Я. Купалу. Гэта творы Г. Леўчыка, В. Таўлая, А. Лойкі, М. Арочкі, І. Чыгрына, А. Сучка і іншых.

Тыраж выдання — пяць тысяч паасобнікаў. Выпуск кнігі фінансавала Слонімская цэнтральная бібліятэка імя Я. Коласа.

ЛЁС паэта, як любілі казаць яшчэ нядаўна, тыповы для прадстаўнікоў ягонага пакалення. Праўда, тым часам пад тыповасцю разумелі найперш тое, што сталенне С. Шушкевіча адбывалася ў першыя гады Савецкай улады. Што ж, калі праўда дык праўда, гэта і на самай справе так. Аднак у біяграфіі Станіслава Пятровіча тыповае і іншае: ён сам зведаў, што такое сталінізм, прайшоў праз пакуты турмаў, стаў адным з нявольнікаў ГУЛАГа.

*ПІСЬМЕННІКУ Станіславу ШУШКЕВІЧУ СПОЎНІЛАСЯ Б 85...*

# ДАВЕРЛІВЫ І АДКРЫТЫ

...Пачыналася ж жыццё будучага пісьменніка ў невялікай вёсцы Бакінава колішняй Койданаўскай воласці Мінскага павета. Тут ён нарадзіўся ў сям'і беззямельнага селяніна 19 лютага 1908 года. Жыццёвыя абставіны склаліся так, што неўзабаве сям'я Шушкевічаў апынулася ў Смаленскай губерні і толькі на пачатку імперыялістычнай вайны вярнулася на радзіму. "Сталай работы для бацькі, — успамінае С. Шушкевіч у аўтабіяграфіі, — не знайшлося ні ў горадзе Мінску, ні ў блізкіх памешчыцкіх маёнтках. Часова ён працаваў на мінскай гарадской электрастанцыі рабочым кацельнай, пасля парабкаваў падзённа ў заможных землеўласнікаў. Нарэшце ўдалося знайсці працу ў маёнтку Сенніца".

Там у 1921 годзе Стасік Шушкевіч адразу пайшоў у другі клас мясцовай пачатковай школы. Яму пашанцавала. Настаўніцай была Алімпіяда Васільеўна Сонцава, тая самая Сонцава, якая яшчэ ў 1889 годзе вучыла Янку Купалу. "Гэтая старэнькая, паўсляпая і адзіная настаўніца, — прыгадваў паэт, — навучыла мяне любіць і шанаваць сваю родную мову, любіць радзіму, народ".

Пашанцавала С. Шушкевічу і калі пасля заканчэння Сенніцкай школы вучыўся ў 11-й мінскай працоўнай сямігодцы. Паблізу знаходзіліся рэдакцыі газет "Малады араты" і "Чырвоная змена". Да ўсяго, школьныя настаўнікі — пісьменнік Адам Бабарэка, мастакі Анатоль Тычына і Уладзімір Кудрэвіч звярнулі ўвагу на дапытлівага хлопчыка, яго жаданне нешта пісаць ці маляваць.

Дэбют С. Шушкевіча адбыўся ў 1924 годзе, калі краіна развітвалася з Леніным. С. Шушкевіч напісаў верш у сувязі з гэтым і аднёс яго ў рэдакцыю газеты "Савецкая Беларусь". Яго апублікавалі. Праз некаторы час з'явілася падборка вершаў і ў часопісе "Малады араты".

У 1926 годзе С. Шушкевіч скончыў сямігодку, паступіў у Мінскі педагагічны тэхнікум. А тут новы настаўнік, ды не абы-хто, а сам Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, якога ўсе добра ведалі па творах як Якуба Коласа. У гэтым жа годзе завочна, без уласнаручнай заявы С. Шушкевіч быў прыняты ў літаратурную арганізацыю "Маладняк". З таго часу, па сутнасці, ён і пачаў займацца сталай літаратурнай працай, хоць і меў за плячыма ўсяго васемнаццаць гадоў.

Пасля другога курса педтэхнікума С. Шушкевіч працаваў у Кніжнай палаце і Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У.І. Леніна (цяперашняй Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі), загадваў бібліятэкай тагачаснага Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі, закончыў крытычна-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта Вышэйшага педагагічнага інстытута імя М. Горкага — у чэрвені 1934 года адбыўся першы і адзіны ў гісторыі Беларусі выпуск літаратараў-прафесіяналаў. Вучобу спалучаў з работай у рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", затым працаваў у газетах "Калгаснік Беларусі" і "Звязда". К гэтаму часу С. Шушкевіч ужо меў зборнік паэзіі "Вершы", які выйшаў у 1934 годзе, паспяхова пачаў працаваць у галіне дзіцячай літаратуры.

Першая ж казка "Звярыны баль" — асобным выданнем выйшла ў 1936 годзе — засведчыла, што малады аўтар цудоўна ведае псіхалогію малых, дасканала валодае словам, разумее, што дзетак неабходна выхоўваць на прыкладах дабра, справядлівасці. Праз шмат гадоў, ужо ў 1978 годзе, сюжэт, пакладзены ў аснову гэтай казкі, паэт перапрацуе і напіша новую — "Камарбрыкун і Жаба-квактуха". Калі ў першым выпадку маленькі Чмелік не пабаяўся адпомсціць за абразу магутнаму Льву, дык у другім Жаба пакарала ганарлівага Камара, з'еўшы яго.

Але да 1978 года было яшчэ вельмі далёка, а ішоў толькі 1936-ты. Станіслаў Пятровіч стаў адной з першых ахвяр сталінізму сярод беларускай творчай інтэлігенцыі. На радзіму назаўсёды вярнуўся толькі ў 1956 годзе. Назаўсёды, бо ён належаў да тых, каго энкэвэдзісты адпускалі, а пасля зноў арыштоўвалі.

Гэтае сваё пачуццё — не, не ад сустрэчы з роднымі мясцінамі, а толькі прадчуванне чаканай і жаданай сустрэчы — ён хораша перадаў у вершы "Белы мой лебедзю", напісаным восенню таго пяцьдзесят шостага года на катэры, што плыў па Ангары:

**Белы мой лебедзю, мой пабрацім,**
**Над Ангарою з табой праляцім**
**І над тайгою гарыстай пакружым.**
**Шмат тут прастору смелым і**
**дужым.**
**Мужным і дужым!**

З другой паловы пяцідзесятых гадоў імя С. Шушкевіча зноў з'явілася ў беларускай літаратуры. Цяпер ужо назаўсёды. Як і іншыя пакутнікі, ахвяры сталінізму, ён мусіў не проста пісаць, а і ў добрым сэнсе гэтага слова навёрстваць упушчанае. Асобныя ж сябры па пяру, каго нягоды мінулі, так далёка пакрочылі наперад. Таму і выходзілі ў С. Шушкевіча кніжка за кніжкай — "Дарогаю вясны", "Услед за марамі", "Навальніца", "Сябрам" і іншыя. Яны напоўнены роздумам аб хуткаплынным часе, у іх замілаванне жыццём, тое замілаванне, якое сведчыць аб чуйнасці, лірычнасці душы аўтара.

І ўсё ж не будзе перабольшаннем сказаць, што асабліва ярка раскрыўся талент С. Шушкевіча як дзіцячага пісьменніка. Зборнікі "Лясная калыханка", "Сарочы церамок", "Вясёлыя дзятлікі", "Колькі кіпцікаў у кошкі", іншыя — дасціпныя, займальныя і ў меру павучальныя.

Лепшыя вершы для дзяцей, напісаныя Станіславам Пятровічам, даўно сталі хрэстаматыйнымі. Хоць бы гэты — "Пайшоў коўзацца каток", напісаны яшчэ ў 1957 годзе:

**Пайшоў коўзацца каток**
**На рачулку, на лядок,**
**Як імчаўся, на хаду**
**Праваліўся у ваду.**
**Замачыў ён чаравічкі,**
**І касцюм, і рукавічкі.**
**Нетрывалы быў лядок,**
**Непаслушны быў каток.**
**А яму ж казала маці,**
**Каб лавіў мышэй у хаце,**
**Каб маленькіх калыхаў**
**І на цёплай печы спаў.**

Апошнім часам С. Шушкевіч пісаў для дзяцей і празаічныя казкі, аб чым, у прыватнасці, засведчыла кніжка "Ліса з магнітафонам".

Нельга не сказаць і пра ўспаміны С. Шушкевіча. Пачатак гэтаму быў пакладзены ў зборніку "Вяртанне ў маладосць", які выйшаў у 1968 годзе і, як вядома, з цяжкасцю прабіваў сабе дарогу. Адліга ж, што была пры Хрушчове, даўно закончылася, а тут пра ахвяр сталінізму — Змітрака Астапенку, Уладзіміра Хадыку, Барыса Мікуліча... Тым не менш, кніжка выйшла. І ў гэтым праявіліся і смеласць, і мужнасць, і настойлівасць Станіслава Пятровіча.

Гэта ўсё С. Шушкевіч-пісьменнік, грамадзянін, а быў жа і С. Шушкевіч-чалавек. З той рэдкай кагорты сумленных, прынцыповых людзей. І гэта могуць сказаць усе, хто хоць аднойчы сустракаўся са Станіславам Пятровічам. Могуць засведчыць дзесяткі людзей, бо такім ён таварыскім быў, людскім, адкрытым і даверлівым. Даверлівым, нягледзячы на тое, што гэтак шмат перажыў, столькі зведаў несправядлівасці, так часта сутыкаўся з подласцю. Ды не памятаў ён благога, не хацеў памятаць. Але і не баяўся расказваць пра сталінізм.

Прыгадайма, як звычайна пачыналіся гэтыя гаворкі. ...Памятаеце? Заходзіў Станіслаў Пятровіч у кабінет і, ледзь паспеўшы прывітацца, клаў свой нязменны партфель ці, нават не паспеўшы яго пакласці, пачынаў нязменна: "А ведаеце...". "Ведаеце" гучала без запытання, "ведаеце" гучала як пачатак важнай інфармацыі, якую можна пачуць ад яго, госця.

Колькі падобных гутарак было і ў мяне са Станіславам Пятровічам. Канечне ж, у яго родным "ЛіМе", у які пашчасціла і мне прыйсці на працу ў 1972 годзе. Шкадую, вельмі шкадую, што хоць асобныя эпізоды не занатаваў. Яшчэ больш шкадую і дараваць сабе не магу, што так мала сустракаўся са Станіславам Пятровічам у апошні год яго жыцця, калі хварэў ён, калі амаль не выходзіў з дому. Ды нічога не вернеш ужо. Такія мы ўсе заклапочаныя, што пастаянна знаходзім сабе справы, справы, справы... А людзей — людзей губляем.

Сёння адзіная ўцеха, што творчасць С. Шушкевіча жыве, яна патрэбная чытачу. А значыць і ён патрэбны многім і многім. Яго жыццё абарвалася два гады назад — 1 лютага 1991 года. Яго жыццё працягваецца. У нашай памяці, у кнігах. Адна з іх, новая, павінна сёлета выйсці ў выдавецтве "Юнацтва". "Непаседлівыя вавёркі" — тое, што пісалася майстрам апошнім часам. Пісалася дзецям, а значыць рабілася і дзеля будучыні.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

З НАДЗЕЯЙ НА ВОДГУК

# ХТО ВЕДАЕ РЫГОРА САМОХІНА?



У справаздачы Прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады прафесара Радаслава Астроўскага на ІІ Усебеларускім Кангрэсе адзначалася, што "беларускімі кампазытарамі напісана і ўлучана ў рэпэртуар звыш 60 новых музычных твораў, сярод іх балет кампазытара А.Туранкова "У лясным гушчары". Заканчваюцца: кампазытарам М.Шчагловым беларуская апэрэта "З выраю" (на лібрэта Н.Арсеньневай), кампазытарам М.Равенскім апэрэта "Залёты" (на лібрэта Д.-Марцінкевіча), кампазытарам М.Івановым — дзіцячая опэра "Мухамор", кампазытарам Р.Самохіным — новая сімфанічная паэма і г.д.". А ў нарысе Міколы Куліковіч-Шчаглова "Савецкая беларуская опэра" ("Спадчына", 1991, N 6) прачытаў: "Кантракты, прыватныя парады, уласнае жаданне пабуджалі далучыцца да опэрнага творства такіх кампазытараў, як Туранкоў, Цікоцкі, Шчаглоў, Залатароў, Багатыроў, Самохін, Палонскі ды Іваноў". Тут ёсць і такія радкі: "...падчас нямецкай акупацыі Беларусі (1941—1944), у цяжкіх варунках ваеннага часу, былі напісаныя наступныя опэры: "На Купальле" Туранкова, "Ляснное возера" й "Узяслаў Чарадзей" Шчаглова. "Залёты" Равенскага й "Каваль-ваявода" Самохіна былі ў працэсе напісаньня".

З усіх пералічаных вышэй беларускіх кампазітараў прозвішча аднаго ў пасляваенныя гады, відаць, застаецца толькі загадкай. Гэта імя кампазітара Рыгора Самохіна.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Рыгор Самохін застаўся ў акупіраваным немцамі Мінску. Тут ён арганізаваў і кіраваў цымбальным ансамблем. Працаваў не толькі як умелы і здольны кіраўнік, але і сам пісаў для яго музычныя творы, у якіх трапна выкарыстоўваў гукавыя фарбы і асаблівасці гучання цымбалаў. Буйнейшы яго твор у гэтай галіне — "Сюіта для цымбальнага ансамбля". Яна складаецца з чатырох частак, кожная з якіх — самастойны музычны вобраз.

Кампазітарская дзейнасць Рыгора Самохіна самая шырокая і разнастайная: шматлікія апрацоўкі беларускіх народных песень, рамансы на словы беларускіх паэтаў, капрычыо, уверцюра, беларуская рапсодыя, дзве сюіты на тэмы беларускіх народных песень для аркестраў народных інструментаў, трыо-фантазія для скрыпкі, віяланчэлі і фартэп'яна, тэма з варыяцыямі і сімфонія для сімфанічнага аркестра.

Рыгор Самохін быў добра знаёмы з беларускай народнай песняй. Ён умеў апрацоўваць песні для голасу. Пры гэтым кампазітар заўсёды імкнуўся захаваць своеасаблівасць народных мелодый, умеў знайсці адпаведныя сродкі гарманізацыі, якія не перагружалі мелодыю чужым ёй гучаннем. То гэта былі шырокія гуслевага характару аранжыровачныя акорды ("Ды ўжо сонейка"), то пераборы, пераліўы гармоніка ("Ой пад дубам"), то хуткае і ажыўленае суправаджэнне, што адпавядала бадзёраму характару слоў ("Я ўчора п'яна была"), то кантрапунктавыя падгалоскі ў народна-песенным стылі ("Каліна-малінушка") і іншыя.

Гэта коратка пра творчы шлях кампазітара, а цяпер — пра жыццёвы.

Нарадзіўся Рыгор Самохін у 1911 годзе ў Горках Магілёўскай вобласці ў сям'і агранома. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Горацкай царкоўнапрыходскай школе, пасля ў аршанскай сямігодцы. Менавіта ў Оршу яго бацьку перавялі на працу, сюды і пераехала ўся сям'я Самохіных. На жаль, музычнае жыццё тут амаль адсутнічала, толькі існавала некалькі музычных самадзейных гурткоў, якія і наведваў Рыгор.

У 1928 годзе ён едзе ў Мінск, каб паступіць на аддзяленне па класу тэорыі і кампазіцыі Мінскага музычнага тэхнікума. Але ведаў было мала, і Р.Самохіна залічылі толькі ў клас кантрабаса прафесара Славачэўскага. Вучоба давалася яму лёгка, і хутка маладому музыканту дазваляюць адначасова наведваць і клас кампазіцыі прафесара Аладава.

У 1932 годзе ў Мінску адкрываецца кансерваторыя і Рыгора Самохіна пераводзяць сюды ў клас кампазіцыі прафесара В.Залатарова.

Атрымаўшы добрую музычную адукацыю, Рыгор Самохін працуе пры Мінскім радыё кіраўніком домравага ансамбля і ў опернай студыі як кантрабасіст у сімфанічным аркестры. Пасля — у філармоніі як дырыжор аркестра народных інструментаў...

У канцы вайны беларускі кампазітар Рыгор Самохін жыў на эміграцыі, а, мабыць, яшчэ і жыве. Там, нібыта, напісаў дзіцячую оперу і іншыя музычныя творы. Хочацца спадзявацца, што пасля гэтай публікацыі адгукнецца той, хто што-небудзь ведае пра яго.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

# ПАМЯЦЬ ПРАЗ БОЛЬ

У выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыла свет кніга Мікалая Токарава "Вернутыя імёны. Супрацоўнікі АН Беларусі, пацярпеўшыя ў перыяд сталінскіх рэпрэсій". Называюцца імёны 143 чалавек — прэзідэнтаў і віцэ-прэзідэнтаў гэтага навуковага цэнтра, акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў, дактароў і кандыдатаў навук, аспірантаў і проста рабочых. Сярод ахвяр — Вацлаў Ластоўскі і Змітцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Аркадзь Смоліч і Іван Пятровіч (Янка Нёманскі), Максім Гарэцкі і Язэп Лёсік... Толькі 43 чалавекі з гэтых пакутнікаў, прайшоўшы праз пекла турмаў, ГУЛАГаў, засталіся ў жывых.

## АДРАДЖЭННЕ СВЯТЫНІ





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Больш за стагоддзе галоўную плошчу нашага горада ўпрыгожвае касцёл Святых Алены і Сымона. Некалі пабудаваны на сродкі слуцкага памешчыка Эдуарда Вайніловіча ў памяць раптоўна памёршых дзяцей, васемнаццацігадовай Гэлены і чатырнаццацігадовага Сымона, касцёл перажыў усё, што выпала на долю народа і краіны.

У часы павальнага атэізму храм быў зняважаны: з яго сарвалі крыжы і ператварылі ў Дом кіно. Толькі ў 1990 годзе неверагоднымі намаганнямі католікі вярнулі сваю святыню. Сёння Чырвоны касцёл Святых Алены і Сымона вяртаецца да жыцця, каб зноў стаць домам Божым, домам малітвы.

Зусім нядаўна на касцёльныя вежы быў узняты апошні крыж. А ўсяго іх 10 — увасабленне дзесяці Божых запаведзяў. Устанаўліваў крыжы сапраўдны майстар сваёй справы Ян Якімовіч.

Зроблены вялікі кавалак работы па аднаўленню Божага храма, аднак наперадзе яе яшчэ вельмі многа. Касцёл патрабуе сур'ёзнай перабудовы, якая, дарэчы, ідзе ўжо трэці год. Рэстаўрыруюць яго самі вернікі за ўласныя сродкі. Ёсць людзі, якія кожную пенсію аддаюць касцёлу, пакідаючы сабе грошы толькі на хлеб і малако. Аднак усе гэтыя шчырыя ахвяраванні — кропля ў моры сённяшняй інфляцыі. Грошай катастрафічна не хапае. Толькі за паперы (эскізныя распрацоўкі па рэстаўрацыі) касцёл павінен аддаць мільён рублёў. А колькі гэтых мільёнаў патрэбна яшчэ, каб пабудаваць тры алтары, замяніць усе дзверы і вітражныя вокны, перасланць чарапіцу на даху, аднавіць агароджу вакол касцёла, пераабсталяваць цвінтар. Да таго ж, у падвале будуецца Нядзельная школа.

— Наш касцёл будзе не толькі храмам для вернікаў, — кажа ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, — але і своеасаблівым культурным цэнтрам. Плануем праводзіць тут канцэрты арганнай музыкі, выставы мастакоў...

Безумоўна, што ўсё гэта таксама патрабуе дадатковых сродкаў ужо сёння.

Ксёндз Уладзіслаў спадзяецца, што нашы ўлады ўсё ж знойдуць магчымасць дапамагчы аднаўленню гэтага гістарычнага помніка беларускай архітэктуры, які, дарэчы, многія лічаць візітнай карткай Мінска.

Магчыма і хтосьці з вас, дарагія нашы суайчыннікі, захоча дапамагчы касцёлу. Нагадаем разліковы рахунак, на які вы можаце пералічыць свае ахвяраванні: р/р 200700007 у Маскоўскім аддзяленні "Белбізнесбанка" г. Мінска. Атрымальнік: рэлігійная абшчына каталіцкага веравызнання, касцёл Святых Алены і Сымона.

На развітанне з намі ксёндз Уладзіслаў папрасіў перадаць вялікую падзяку і Божае блаславенне ўсім, хто дапамагае сродкамі, сваёй шчырай працай дый малітвамі.

**Галіна ХАЛЕВІЧ.**

ЗДЫМКІ ў Чырвоным касцёле зроблены нашым фотакарэспандэнтам Віктарам СТАВЕРАМ.



З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ

## МІКІТА




А у полі вецер вее,
А Мікіта жыта сее,
Мікіта, Мікіта, | 2 разы
Калом шапка прабіта.

А Мікіта ў лес паехаў
Сваёй жонцы на пацеху,
Мікіта, Мікіта, | 2 разы
Туды-сюды, Мікіта.

А Мікіта сена косіць,
Мікіціха дровы носіць,
Мікіта, Мікіта, | 2 разы
Туды-сюды, Мікіта.

Мой Мікіта муку сее,
А я рада, што умее,
Мікіта, Мікіта, | 2 разы
Туды-сюды, Мікіта.

СПОРТ

## ШАСЦІРАЗОВЫ!

У далёкай Японіі прагучаў нацыянальны гімн Рэспублікі Беларусь. Тысячы і тысячы аматараў канькабежнага спорту, што прышлі на стадыён Ікахо, віталі новага чэмпіёна свету Ігара Жалязоўскага. Цяпер ужо шасціразовага. І, бадай што, ніколі так цяжка не даваўся яму залаты медаль.

...Ззаду тры дыстанцыі. Другі дзень спаборніцтваў. Забег на пяцісотку. Радуецца стадыён Ікахо: іх любімец, японец Ясуноры Міябэ, выйграе гэту дыстанцыю і перад заключнай тысячаметроўкай становіцца лідэрам. У Жалязоўскага ж на пяцісотцы толькі дзесяты вынік. Але Ігар ведае: шанц ёсць. Застаецца апошні від, яго канёк — на дыстанцыі тысяча метраў сёлета ён не ўступаў нікому.

Даецца старт. Наперад! Усю волю ўклаў наш спартсмен у гэты старт. Моцны вецер не даў паказаць рэкордны час, але вецер перашкаджаў і іншым. І зноў канькабежац з Беларусі выйграе сваю "каронку", а з ёю і залаты медаль чэмпіёна свету па спрынтарскаму мнагабор'ю.

У сёлетнім сезоне на розыгрышы Кубка свету галоўным сапернікам беларускага спартсмена з'яўляецца амерыканец Джэнсэн. Але Ігар Жалязоўскі, адказваючы на пытанні журналістаў, хто будзе яго галоўным канкурэнтам на першынстве свету, сказаў: японцы. І абгрунтаваў гэта так. Японцы будуць выступаць дома, пры вялікай падтрымцы сваіх аматараў, а балельшчыкі тут сапраўдныя фанаты. Японцы прызвычаіліся не толькі да бегавых дарожак, але і да клімату, што вельмі важна.

Так і атрымалася. За беларускім спартсменам у выніковай табліцы чэмпіянату свету размясціліся менавіта японскія спартсмены: Міябэ, Шыміцу. Джэнсэн — на пятым месцы.

Зусім натуральна і справядліва ў матэрыяле карэспандэнта газеты "Советский спорт" Д.Срабніцкай з чэмпіянату свету ў Японіі ёсць такія словы: "Перамога Жалязоўскага — гэта і наша, расійская перамога, паколькі знакамітага спрынтара, як і раней, трэніруе масквіч Валерый Муратаў".

Ігар Жалязоўскі ўдзячны Валерыю Муратаву за тое, што некалі вялікі спартсмен, а цяпер трэнер шмат дапамог яму, беларускаму канькабежцу. Яны сябруюць. Да таго ж Ігар Жалязоўскі дапамагае трэнеру рыхтаваць маладых канькабежцаў Расіі: Аляксандра Голубева, Віктара Чупіру і Сяргея Кляўчэню. І таксама можа падкрэсліць, што ўнёс свой уклад у тое, каб маладыя спартсмены на чэмпіянаце свету ў Японіі ўвайшлі ў дзесятку мацнейшых.

Ніхто з канькабежцаў не заваёўваў столькі разоў золата на першынствах. Для параўнання: амерыканец Эрык Хайдэн — уладальнік чатырох вышэйшых узнагарод на чэмпіянатах свету.

— Але ў Эрыка, — кажа Жалязоўскі, — ёсць яшчэ і алімпійскае золата. Так што канькі на цвік не павешу, пакуль і ў мяне не будзе вышэйшых узнагарод на Алімпійскіх гульнях.

**Яўген ІВАНОЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ
Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку"
Тыраж 5 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 355.
Падпісана да друку 9.03.1993.